PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 19 (2191) Год XLIII Беласток 10 мая 1998 г. Цана 1 зл.



*Айцец Міраслаў Хіліманюк са Свята-Ільінскага прыхода ў Дайлідах свяціць магілы.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Яны ахоўваюць нас штодзённа

Ганна Кандрацюк

**Польскія католікі моляцца за памерлых 1 лістапада — кажа Віктар С. — Żeby potem cały rok nie myśleć o cmentarzu. Праваслаўныя палякі, беларусы-праваслаўныя і католікі тры або і больш разоў у год свяцяць магілы. На Провады (Радаўніцу), у дзмітраўскія Дзяды, польскае Свята Памерлых, царкоўна-прыхадскія святы.**

**To może my Rosjanie?**

Могільнік у падбеластоцкіх Дайлідах. Провады святкуюць тут тыдзень пасля Вялікадня на г.зв. „Niedzielę Przewodnią".

— To taka tradycja, — пан Мікалай запальвае хіба дваццатую ўжо лямпку. Магілу яго бацькі абступіла шматлюдная сям'я. Прыйшлі не толькі дзеці і ўнукі, але і далёкія кроўныя, знаёмыя.

— Każdy ze zniczem przychodzi teraz, — усміхаецца задаволена пан Мікалай. — Kobiety niosą kwiaty. Razem modlimy się za zmarłego, święcimy mogiłę, a potem na obiad razem idziemy.

Помнік бацькі пана Мікалая звычайны, з шэрага шчэбню (грысіку). Аздабляюць яго залатыя польскія літары. Пан Мікалай і большасць яго сям'і лічаць сябе праваслаўнымі палякамі.

— Bo w Polsce mieszkamy, — удакладняе.

— А адкуль родам ваш бацька? — пытаю.

— Aż spod Siemiatycz мои родственники, — акрашвае расейшчынай Мікалай.

Маю цікаўнасць падхоплівае і ўнучка пана Мікалая, 10-11-гадовая дзяўчынка.

— Dziadku, a gdzie jest mogiłka twojego dziadka? — адкрывае роцік дзяўчо.

— W Rosji, dziecko, gdzieś na Syberii, — паясняе ўнучцы пан Мікалай і задумоўваецца.

— To może my Rosjanie jesteśmy, — узбуджаецца сваім адкрыццём дзяўчынка.

— Tata, — звяртае ўвагу пану Мікалаю стройная бландзінка, — przestałbyś dziecku w glowie mącić!

**На магіле Уладзіміра Высоцкага**

Хвіліну пазней сустракаю Зіну Іванюк з Катлоўкі. Цётка кожны год прыязджае на магілу сястры Вольгі і швагра Аляксандра.

— Стараюся быць і на Ільлю, і на Свята Памерлых, — кажа.

Па-суседску магіла Уладзіміра Іванавіча Высоцкага.

— Кім быў вам Уладзімір Высоцкі? — пытаю ў сеньёра роду, статнага мешчаніна.

Мой субяседнік размаўляе чысценька па-беларуску.

— От, чалавек такі быў, рольнік, — кажа пра памерлага. — З-пад Каралёвага Моста.

— А вы не першая пра яго пытаеце, — уключаецца ў размову пажылая цётка. — Аднойчы пыталі нас, ці гэта часам не бацькі бацюшкі, што ў Кленіках?

Ва Уладзіміра Высоцкага помнік з чорнага мармуру.

— Глядзіце, — наракае цётка, — ужо падрэзалі зладзеі крыж. Толькі і чакаць як помнік прападзе.

— Dzień dobry. Хрыстос Уваскрэсе! — прывіталіся з радняй У. Высоцкага чарговыя сваякі, людзі сярэдняга пакалення з дзецьмі.

Радня, натуральна, перайшла на польскую мову.

**Цешыцца трэба з пакойнікамі**

Провады, як і ўсе праваслаўныя памінальныя святы, не маюць сумнага характару.

— Мы павінны цешыцца разам з пакойнікамі, што Хрыстос Уваскрос, — кажуць беларускія сяляне.

У адрозненні ад праваслаўных палякаў яны любяць расказваць у гэты дзень пра прапрабабак ці слаўных *родственнікаў*, пра якіх даведаліся з расказаў сваіх бабуль або дзядоў.

— Калісьці Провады святкавалі па-старому, — кажа Ніна Кавальчук з-пад Гайнаўкі.

Яе расказ напамінае пра старажытную славянскую трызну.

— Найперш закуплялі ў бацюшкі імшу...

[*працяг* ☞ 9]

## У нумары

# Мы прачыталі

*Bogactwo polskiego rynku telewizyjnego jest pozorne. Koncesji i programów przybywa, a oglądać nie ma czego.*

*Rzeczpospolita, nr 85*

* * *

*To oczywiste, że światem rządzi diabeł. Zresztą w Ewangelii określony jest on mianem księcia tego świata. W pismach św. Jana rzeczywistość jest także oparta na elemencie zła. Wygląda na to, że Bóg wycofał się z tego świata. W Boga jest prawie niemożliwe wierzyć. W diabła musi się wierzyć, bo się go dotyka na co dzień. Cała tragedia zwierzęcej i ludzkiej egzystencji, tragedia przyrody — to są jawne rządy szatana i upadłych aniołów. Człowiek jest grzesznikiem z racji swojego istnienia. Je mięso, ryby, istoty stworzone przez Boga. Nie ma sposobu na to, aby nie być grzesznikiem. Każdy człowiek o autentycznych intuicjach religijnych musi być heretykiem, gdyż herezja to jest inny pogląd, to jest dialog wewnętrzny, to walka z zastanymi formami naszej świadomości. Polacy są niereligijnym narodem. Są pobożni, to prawda. Nie stworzyli jednak żadnej wielkiej herezji, bo są bezmyślnie religijni. Religijni są natomiast Rosjanie i Niemcy. Stworzyli tyle herezji. W sprawach wiary kompetentni są święty i grzesznik. Porządny człowiek nie jest kompetentny,* — сказаў прафесар Ежы Навасельскі.

*Gazeta Wyborcza, nr 86*

* * *

*Grupy przestępcze inwestują dziś w świadectwa udziałowe, skupiają akcje banków, dysponują informacjami z najwyższych urzędów. Mafiozi kupują akcje banków wchodzących na giełdę. Współpracujący z gangami gracze tworzą specjalne grupy zajmujące się spekulacją na giełdzie. Akcje krążą z taką szybkością, że trudno komukolwiek zorientować się gdzie kończą się machinacje przestępców. Kryminaliści mają wpływ na wymiar sprawiedliwości, organy ścigania, świat polityki, biznesu i media.*

*Kurier Poranny, nr 89*

* * *

*W ciągu roku próbuje się u nas zalegalizować 8 miliardów mafijnych pieniędzy. W każdej godzinie ktoś gdzieś w Polsce pierze 100 tysięcy dolarów brudnych pieniędzy pochodzących z przestępstwa. Lokowane są w naszych bankach, ubezpieczeniach, nieruchomościach, prywatyzowanych przedsiębiorstwach, dziełach sztuki.*

*W drugim obiegu krążą w Polsce około 38 mld zł. rocznie z tytułu ukrytej produkcji, usług, zawyżonych kosztów, niezapłaconych podatków. Szara strefa wytwarza w Polsce około 20 proc. towarów. W naszym kraju prane są pieniądze nie tylko zagranicznych mafii, lecz także tzw. „uczciwych" obywateli.*

*Polityka, nr 16*

* * *

*Больш за 500 беларусаў жадаюць прыняць сімвалічнае грамадзянства БНР.*

*Беларускі дайджэст, н-р 3*

Шкада, што не 5 мільёнаў, была б тады нейкая надзея.

* * *

*Nietolerancja jest zakorzeniona bardzo mocno w świadomości Polaków,* — прызнае

*Gazeta w Białymstoku, nr 87*

* * *

*Апазыцыя ў Беларусі перажывае крызіс. Пра гэта сёньня ня піша хіба што лянівы. А ў чым сутнасьць крызісу? Адны кажуць, што няма сапраўднага лідэра, другія — што партыям не хапае палітычнай волі, а масам нацыянальнай сьвядомасьці, трэція — што Захад слаба памагае ў барацьбе за дэмакратыю. Праўда, назваць тое, што адбываецца ў Беларусі, барацьбой, тым больш палітычнай, можна, хіба што ў прыпадку прыязьмерным запале. Адзін дэмакратычны лідэр перажывае з тае прычыны, што Крэмль недаацэньвае пагрозу, якую нясе Лукашэнка. Другі, што гэтую пагрозу недаацэньвае Захад. Прычым словы „недаацэньваюць" трэба разумець проста — мала даюць грошай апазыцыі на барацьбу з таталітарным рэжымам.*

*Наша ніва, н-р 7*

* * *

*Dzisiaj prostytucja w Polsce kwitnie, bo kwitnie wolny rynek, a ona zawsze była jego jędrną gałęzią. Ostatnio w naszych księgarniach pokazało się parę książek poświęconych tej profesji, z ich lektury wynika, że najstarszy zawód świata istniał zawsze i był niezbędny dla normalnego funkcjonowania społeczeństwa.*

*Polska specjalizuje się w tym, co elegancko nazwano „agencją towarzyską". Oto mariaż ludzi prawnej i szlacheckiej, sarmackiej tradycji. Trudno znaleźć kraj na świecie, gdzie tak powszechnie całuje się kobiety w rękę i gdzie codziennie milion alkoholików bija swe żony. Kraj pruderyjnie rozpięty i nieprzyzwoicie zapięty, rozdarty między Radiem Maryja, tradycyjnym Kościołem a nadal żywym szlacheckim myśleniem: „nic o naszym łóżku bez nas".*

*Polityka, nr 17*

* * *

*Człowiek, który zachowuje się jak idiota zazwyczaj odnosi niesamowite sukcesy. Dawniej starałem się być inteligentny, skończyłem nie najgorszą szkołę. Ale jak zacząłem zachowywać się jak idiota, stałem się bogaty,* — сказаў Генрык Дэдэрка, аўтар фільма „Witajcie w życiu".

*Kurier Podlaski, nr 72*

# З мінулага тыдня

**Міжнародная канферэнцыя** „Агульная і спецыялістычная мова ў навучанні студэнтаў" адбылася ў Беластоку, а арганізаваў яе мясцовы Універсітэт. Тэмай сустрэчы навукоўцаў былі пытанні і метады вывучэння спецыялістычнай тэрміналогіі ў вышэйшых навучальных установах. У канферэнцыі ўдзельнічалі выкладчыкі Дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы з Гродна і Беларускай палітычнай акадэміі ды Педінстытута з Менска, а таксама прадстаўнікі універсітэтаў з Вроцлава і Шчэціна.

**Таннейшыя візы** для грамадзян Беларусі і Расеі праўдападобна будуць уведзены пад канец ліпеня гэтага года. Міністэрства замежных спраў спадзяецца неўзабаве атрымаць ад Міністэрства фінансаў 2,5 млн. зл. на павелічэнне штатаў у шасці польскіх консульствах на тэрыторыі Расейскай Федэрацыі і Беларусі.

**Асноўныя пагранічныя пераходы** на ўсходняй граніцы Польшчы будуць заблакіраваны без папярэдняга паведамлення, — заявіў лідэр Усяпольскага саюза абароны прадпрымальнікаў і работадаўцаў **Зыгмунт Якімовіч**. Па яго словах, рашэнне аб правядзенні акцыі пратэсту Саюз прыняў пасля таго, як былі вычарпаны ўсе магчымасці ў ходзе перагавораў з урадам аб зніжэнні кошту віз для расіян і беларусаў. Паводле папярэдніх даных блакада будзе праведзена пасля 30 мая.

**Уся Белавежская пушча** стане нацыянальным паркам, — заявіў міністр аховы асяроддзя **Ян Шышко**. Цяпер пад нацыянальным паркам знаходзіцца 16% польскай часткі пушчы, калі на беларускім баку ахоўваецца ўся пушчанская тэрыторыя. Эколагі гадамі змагаюцца за ахову лесу, а тым часам з году ў год павялічваецца колькасць высечаных дрэў (у мінулым годзе пад тапарамі легла 120 кубаметраў лесу). Міністр паведаміў таксама, што генеральны дырэктар Дзяржаўных лясоў выпрацуў да канца гэтага года забараніць высечку звышстагадовых дрэў і натуральных лясоў на тэрыторыі Белавежскай пушчы.

**Таварыства жыхароў пацярпелых ад Управы горада** паўстае ў Беластоку. Ініцыятарам заснавання гэтай арганізацыі выступіў Падляшска-Мазурскі рэгіён прафсаюза ОПЗЗ. Ствараецца яна з мэтай абароны 11 тысяч жыхароў горада, якім адміністрацыя незаконна павялічыла кватрплату за жыллё ў камунальных памяшканнях.

**Паўторныя выбары** ў Сельскагаспадарчую палату адбыліся ў Беластоцкім ваяводстве. У выбарах прыняло ўдзел толькі 8,87% упаўнаважаных сялян. У першых выбарах у 1996 годзе галасавала два разы больш людзей, але тады патрабавалася 20-працэнтная прысутнасць выбаршчыкаў. Другія выбары захоўваюць важнасць нягледзячы на лік галасуючых. Найменш людзей прыйшло на выбарчыя ўчасткі ў Беластоку — 1% і Мілейчычах — 2%.

**VII Харчовы кірмаш** „Feeding Wiosna `98" адбыўся ў Беластоку. Прыцягнуў ён увагу 85 прадпрыемстваў з усёй краіны і гандлёвых місій з Беларусі, Латвіі, Літвы і Расіі. Падчас кірмашу вяліся перамовы, між іншым, наконт пастаўкі мясных прадуктаў фірмы „Рольмак" з Макаўкі Нарваўскай гміны ў Калінінградскую вобласць Расейскай Федэрацыі.

**У Кузніцы-Беластоцкай** на кантрольна-прапускным пагранічным пераходзе вядуцца рамонтныя работы. На працягу двух месяцаў будзе папраўлена дарога і пракладзены новыя тэлефонныя лініі. Кошт дарожных работ складзе суму 3 млн. зл., а іх заканчэнне плануецца на канец чэрвеня.



# Весткі з Беларусі

**Чарнобыльскі шлях**

У дванаццатую гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Менску адбылося шэсце беларускай апазіцыі, якое ўзначальвалі дзеці з запаленымі свечкамі. Некалькі тысяч дэманстрантаў прайшлі цэнтральнымі вуліцамі горада. Хаця мерапрыемства было прысвечана чарнобыльскай трагедыі, удзельнікі шэсця скандзіравалі антыпрэзідэнцкія лозунгі і неслі такія ж транспаранты.

**Перамовы з „Газпрамам"**

Новая схема разлікаў Беларусі з расейскім Акцыянерным таварыствам „Газпрам" была прынята на перамовах прэм'ер-міністра Сяргея Лінга са старшынёй таварыства Рэмам Вяхіравым. Цяпер толькі 26% паставак энерганосьбітаў павінна аплачвацца ў цвёрдай валюце. Астатняе будзе пакрывацца за кошт бартэрных аперацый, экспарту будаўнічых і іншых паслуг. За мінулы год даўгі Беларусі перад „Газпрамам" скараціліся напалову, а кіраўніцтва „Газпрама" пайшло насустрач ураду Беларусі, згадзіўшыся прыняць бартэрам большую частку даўгоў.

**Адсталасць па выплатах**

Запазычанасць па зарплаце за люты ў сістэме Міністэрства прамысловасці на канец сакавіка склала амаль 16% ад агульнага яе аб'ёму. Найбольшае адставанне па выплатах дапушчана на прадпрыемствах сельскагаспадарчага машынабудавання. Галоўная прычына такой сітуацыі — узаемныя неплацяжы за адгружаную прадукцыю і камплектуючыя вырабы, дысбаланс паміж аб'ёмамі продажу і вытворчасці, рост удзельнай вагі тавараабменных аперацый у сістэме рэалізацыі.

**60-гадовы юбілей паэтэсы**

У Літаратурным музеі Янкі Купалы ў Менску адбылася творчая вечарына гродзенскай паэткі Дануты Бічэль-Загнетавай. Яшчэ ў 1984 годзе яна сярод першых была ўзнагароджана Дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы за кнігу лірыкі „Дзе ходзяць басанож", таму і літаратурна-музычная вечарына названая была радком з яе вершаў: „Вучуся шчырасці ў Купалы". Слова пра сёлетнюю юбілярку сказалі Янка Брыль, Хрысціна Лялько, Уладзімір Конан, Кастусь Тарасаў, Леанід Дранько-Майсюк. Выкладчык Акадэміі музыкі Валерый Жывалеўскі і яго выхаванцы выканалі песні на словы паэткі.

**Царкоўны прытулак**

Грамадскія работы з удзелам добраахвотнікаў пачаліся на Шпітальным востраве Брэсцкай крэпасці ў будынку былой казармы ваенна-будаўнічай часці. Па просьбе праваслаўных вернікаў Свята-Мікалаеўскага гарнізоннага сабора гэтая ўласнасць перададзена для далейшага пераўладкавання яе ў дзіцячую ўстанову. Брэст такім чынам будзе мець першы ў Беларусі царкоўны прытулак для круглых сірот.

**Паэтычная канферэнцыя**

Міжнародная навуковая канферэнцыя на тэму ўзаемадзеяння літаратур у сусветным літаратурным працэсе „Праблемы тэарэтычнай і гістарычнай паэтыкі" адбылася ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. У яе рабоце ўдзельнічалі амаль 150 вучоных Расеі, Украіны, Польшчы, Славакіі і Беларусі. Калегі з Балгарыі і Чэхіі прыслалі свае даклады і паведамленні, якія будуць уключаны ў выдадзены па выніках канферэнцыі зборнік.

**Год Міцкевіча**

З 10 па 12 верасня ў Навагрудскім раёне пройдуць урачыстыя мерапрыемствы з выпадку 200-годдзя з дня нараджэння паэта Адама Міцкевіча. У сувязі з гэтым з рабочым візітам гэты раён наведаў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, які знаёміўся з ходам падрыхтоўчых работ да свята, пабываў на аб'ектах, дзе зараз праходзяць рэстаўрацыйныя работы і дзе адбудуцца ўрачыстыя мерапрыемствы.

**Афіцэрскі абмен**

„Кіраванне крызісамі" — гэта тэма брыфінгаў, якія на працягу тыдня правodзілі ў Беларусі прадстаўнікі Міністэрства абароны Злучаных Штатаў Амерыкі. Яны пабывалі ў Менску ў рамках праграмы „Ваенныя — ваенным". Галоўная мэта прыезду амерыканскіх афіцэраў — абмен вопытам з беларускімі калегамі.

# Хто добраўпарадкуе старыя школы?

**З моманту падзення ліку дзяцей многія вясковыя школы былі закрыты. Узведзеныя калісьці пры грамадскай падтрымцы будынкі, цяпер стаяць апусцелыя, часта напаўразбураныя, з'яўляючыся доказам вандалізму і нядбайнасці пра супольнае дабро.**



*Чахі-Арлянскія.*

— У Мілейчыцкай гміне, — расказвае войт Мікалай Блашчук, — стаяць два мураваныя школьныя будынкі ў Рагачах і Паканеве ды драўляны ў Валках. Калі гміна пераймала будынак „тысячагодкі” ў Рагачах, яго зношанасць ацэньвалася на 60%. Патэнцыяльных кліентаў было пару дзесяткаў, але пасля візіту на месцы ад'язджалі яны і ўжо больш не вярталіся. Праўда, было некалькі хітруноў з Варшавы, якія хацелі ўзяць гэты будынак у якасці залогу пад свае банкаўскія крэдыты, але гміна на гэта не згадзілася. Будынкам у Рагачах цікавіўся а. Ляонцій Тафілюк з Бельска, які хацеў арганізаваць у ім пленэры для іканапісцаў, але нічога з гэтага не атрымалася. Прыязджаў нават Марк Катаньскі, але таксама безвынікова. Цяпер, каб прывесці гэты будынак у парадак, патрэбны вялікія грошы, а і ахвотных не відаць.

У Дубіцкай гміне страшыць напаўразбураны будынак колішняй школы ў Чахах-Арлянскіх. Спачатку планавалася ў ім адкрыць краму, але прадавец адмовіўся, калі канкурэнцыя яго апярэдзіла. Ужо ёсць распрацаваны праект добраўпарадкавання школьнага пляца і будынка для адпачынковых мэт, але для яго ажыццяўлення патрэбны адпаведныя капіталаўкладанні і самой гміне гэта не пад сілу. Цяпер вядуцца пошукі сур'ёзнага інвестара, даюцца аб'явы ў газетах і Інтэрнэце, але пакуль безвынікова.

— Апрача Чахоў маем яшчэ два пустыя драўляныя будынкі ў Грабаўцы, — кажа войт гміны Дубічы-Царкоўныя Анатоль Паўлоўскі. — Школа ў гэтай вёсцы была ліквідавана два гады таму. Абодва будынкі забяспечаны і апякуецца імі вызначаная асоба. А ў Старыне ў школьным будынку размясціўся вядомы ўжо адпачынковы асяродак для дзяцей і моладзі.

Самай багатай у пустыя школьныя будынкі аказалася гміна Орля.

Шчыты-Дзенцялова — тут школа закрыта была 20 гадоў таму, але мураваны будынак з чырвонай цэглы трымаецца моцна. Год таму былі ўстаўлены новыя шыбы, але дзверы засталіся пашкоджанымі. На другім паверсе жывуць двое інвалідаў. На ніжнім паверсе, дзе калісь была святліца, на падаконніках ічыльна стаяць пустыя бутэлькі з-пад алкагольных напояў.

Вулька-Выганоўская. Вялізны, салідны драўляны будынак насупраць Міхайлаўскай царквы стаіць пусты і разбураецца. Асабліва знішчаны верхні паверх, паколькі цераз разбітыя шыбы ў сярэдзіну дастаюцца снег і дождж. Памяшканні на ніжнім паверсе выкарыстоўваюцца ў якасці вясковай святліцы. Будынак на зарослым пустазеллем пляцы і ў атачэнні высокіх таполяў выглядае быццам апусцелы замак, у якім страшыць.

Орля. Побач новага гмаху, які быў здадзены ў карыстанне ў 1992 годзе, стаіць пусты аграмадны драўляны будынак. Толькі ў лістападзе 1996 года адно памяшканне было адведзена для патрэб ветэранаў. Разбітыя шыбы і дзіравы дах паскараюць толькі працэс разбурэння будынка, а ўлады гміны не могуць прыдумаць, як яго выкарыстаць для грамадскіх патрэб.

Пашкоўшчына. Пасля закрыцця школы на верхнім паверсе жыло маладое сужонства. Неўзабаве прыйшла мода на музыку disco polo і гміна перадала будынак у арэнду прыватнай асобе, якая арганізавала тут дыскатэку (кваранты выйшлі адсюль). Калі зменшылася зацікаўленне танцамі, у будынку быў адкрыты бар.

— У лістападзе мінулага года Гмінная рада вырашыла будынак у Пашкоўшчыне прадаць, — кажа сакратар гміны Канстанцін Капонаў. — Уласнік бара перадаў нам за даўгі абсталяванне — цэнтральнае ацяпленне і водаправодную сетку. Калі б знайшоўся нехта ахвотны прыстасаваць будынак, напрыклад, на прытулак для састарэлых, мы перадалі б яго бясплатна.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*




*Пашкоўшчына.*

# Пакуль не позна

Каб дабрацца з чыгуначнай станцыі на вуліцу Польну ў Чаромсе, трэба прайсці вулачкай побач сядзібы спадара Васіля Баранава. Гэтая вулачка спалучае вуліцу Длугу з Вішнёвай. Дарогай карыстаюцца як пешаходы, так і шафёры аўтамабіляў ды веласіпедзісты.

Справа ў тым, што вулачка вельмі вузкая. Асабліва пачатак праезда, які пракладзены праз глыбокі роў. Для кожнага шафёра, які паварочвае з Длугай у напрамку Вішнёвай, спадзісты і вузкі праезд з асфальтнага палатна вуліцы Длугай стварае пагрозу дарожнага выпадку.

Як мне сказалі ў пасёлку, ужо не адзін разва аказаўся ў зімовую пару ў адкосе. Спадар Баранаў звяртаўся ў гміну з просьбай пашырыць вулачку. Чыноўнікі яму адказалі, быццам дарогі няма ў плане. Хтось калісьці высыпаў дарогу гравіем. Значыцца, гміна, несучы кошты, пісала расходы ў назначанае месца. Дык можна і зараз так зрабіць. Аднак ёсць і іншая праблема. Праезд і пачатак дарогі знаходзяцца на тэрыторыі ПКП. І гміна, калі б хацела пачаць сваю інвестыцыю, патрабавала б дазволу дзяржаўнай чыгункі.

На маю думку, адказным чыноўнікам патрэба як мага хутчэй вырашыць праблему, пакуль не дайшло да чарговага выпадку. Бо як нехта скруціць тут сабе шыю, тады будзе ўжо позна. **(ус)**

# Кампенсацыя за шкоду

Лясная звярына была і ёсць ворагам сельскіх гаспадарак, якія гранічаць з Белавежскай пушчай. Асабліва ў час лёгкай зімы алені, зубры і дзікі нішчаць сенажаці і засеяныя палеткі. Жыхарам Масева, Семяноўкі, Альхоўкі і іншых прыпушчанскіх вёсак Надлясніцтва „Броўск” кожны год выплачвае кампенсацыю за ўчыненыя звярынай шкоды. Вось і нядаўна адбывалася ацэнка страт. Людзі гавораць, што кампенсацыя з боку лясной адміністрацыі замалая і не пакрывае страты. Існуе адчуванне, што Надлясніцтва плаціць сімвалічна, скупа! Сяляне навакольных вёсак звярнуліся да Гміннай рады ў Нараўцы, каб гмінная ўлада стала актыўней абараняць сваіх падаткаплацельшчыкаў. **(міква)**

# Дыплом Рады Еўропы ў Белавежы

24 красавіка г.г. у Асяродку прыродазнаўчай адукацыі, што ў Белавежы, адбылося ўручэнне Белавежскаму запаведніку Дыплома Рады Еўропы.

Ужо ад самай раніцы запрошаных гасцей вітала моладзь з розных экалагічных арганізацый з лозунгамі, якія заклікалі да аховы звярыны, птушак, спынення высечкі лесу, заахвочвалі захапляцца дзікімі яшчэ нетрамі. Былі і вучні з Гайнаўкі, якія таксама прыехалі сюды з падтрымкай для змагароў за ахову лесу.

У пачатку сустрэчы з дакладам пра сістэму аховы розных відаў жывых істот выступіў дырэктар Навуковай рады Запаведніка прафесар Б. Фаліньскі. Пра гісторыю Белавежскага запаведніка расказаў яго дырэктар доктар Чэслаў Аколуў, якому ўручылі пасля Дыплом Рады Еўропы (згодна з пастановай польскага ўрада ад 30 верасня 1997 года, на падставе статута Рады Еўропы).

Дыплом з'яўляецца вылучэннем Рады Еўропы, якое прысвойваецца на 5 гадоў на падставе прапаноў зацікаўленых дзяржаў, калі ахоплівае іх еўрапейскі патранат. У выпадку Белавежскай пушчы дыплом прысвоены быў за ахову еўрапейскай спадчыны (флоры, фауны, экасістэмаў і асяроддзя пушчы). Абазначае гэта, што да 30 верасня 2002 года Белавежскі запаведнік будзе пад патранатам Рады Еўропы, з чым звязаны будуць дадатковыя фінансавыя сродкі, але таксама і абавязкі. Польскі ўрад вымушаны будзе фінансаваць у запаведніку ўсе неабходныя інвестыцыі, гарантаваць для працаўнікоў адпаведныя ўмовы ці трымаць патранат над навуковымі даследаваннямі. Выказванні дырэктара Дэпартамента аховы прыроды Міністэрства аховы асяроддзя доктара Зыгмунта Кшэміньскага і старшыні Згуртавання гмінаў Белавежскай пушчы спадарыні Ядвігі Рудзінскай-Патэюк пацвердзілі толькі, што пашырэнне запаведніка неабходнае, але без дастатковых фінансавых сродкаў і згоды самаўрадаў немагчымае.

Арганізатары не прадбачылі, што могуць быць такія асобы, якія не ведаюць французскай ці англійскай моў і не забяспечылі перакладчыкаў. Можа і таму даклад на агульназразумелай расійскай мове выклікаў найбольшае зацікаўленне. У час прэс-канферэнцыі найбольш актыўнымі былі змагары за экалогію, але ніякіх абавязацельстваў ад прадстаўнікоў урада не атрымалі. Дырэктар Кшэміньскі праінфармаваў толькі пра забарону высечкі старэйшых дубоў на тэрыторыі Белавежскай пушчы. Паявіліся таксама прапановы стварыць Кнігу пушчы. Пасля абеду адчынены быў новы турыстычны шлях з Масева ў Косы Мост.

**Аляксей Мароз**

# Прэса ў Польшчы і ў Беларусі

27 і 28 красавіка г.г. у Супраслі праходзіў курс для журналістаў і выдаўцоў незалежнай прэсы ў Беларусі. Курс арганізаваў Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь. Польскія дакладчыкі расказалі беларускім калегам пра сітуацыю прэсы ў Польшчы, дзе ў кароткім часе наступіў пераход ад жорсткага кантролю за сродкамі масавай інфармацыі ўсялякімі дзяржаўнымі ўстановамі да свабоднага рынку і канкурэнцыі за чытача, гледача, рэкламадаўца. Беларусь пакуль што знаходзіцца ў становішчы нагадваючым першую палову васьмідзесятых гадоў у Польшчы, таму перад тамашнімі журналістамі і выдаўцамі прэсы яшчэ доўгая дарога да свабоднага рынку.

Старшыня ўправы Цэнтра Артур Смулка, які выступіў з дакладам на тэму пераўтварэнняў апошніх гадоў на польскім прэсавым рынку сказаў, што ўсё пачалося з ліквідацыі цэнзуры і дзяржаўна-партыйнай манаполіі на друк і распаўсюджванне газет ды часопісаў. У Польшчы цяпер большасць газет выдаецца з удзелам замежнага капіталу, у тым ліку 90% каляровых выданняў. Няма таксама дзяржаўных газет. Канкурэнцыя на рынку вымушае незалежнасць ад палітычных партый. Сітуацыю журналістаў так у фінансавым, як і юрыдычным плане Смулка акрэсліў як вельмі добрую. Журналісцкая салідарнасць дазваляе абараняцца ад палітыкаў, якія хацелі б абмежаваць свабоду слова. Палітыкі кампраметуюцца надта часта і таму хочуць мець уплыў на тое, што пра іх пішацца. Але ў такой камфартабельнай сітуацыі знаходзяцца толькі іх калегі ў Беларусі.

Былы міністр інфармацыі ва ўрадзе Ганны Сухоцкай Здабыслаў Мілеўскі расказаў пра юрыдычныя гарантыі для свабоды слова, якія дзейнічаюць у выглядзе законаў у Польшчы і краінах заходняй Еўропы. Намеснік міністра па справах супрацоўніцтва з замежжам Агата Хрусьціцка гаварыла пра дапамогу міжнародных установ для рэалізацыі праектаў развіцця свабоднай прэсы ў краінах сярэдняй і ўсходняй Еўропы.

Найцікавейшыя, аднак, былі выступленні гасцей з Беларусі. Павел Жук, які выдаваў найбольш вядомую апазіцыйную газету „Свабода", а цяпер — „Навіны", падзяліў недзяржаўную прэсу ў Беларусі на палітычную і камерцыйную. Гэтая апошняя змяшчае ў большасці рэкламу і парады, як, напрыклад, прыемна правесці свабодныя ад працы дні. Не змяшчае яна інфармацыі пра палітычныя падзеі. Сітуацыя газет, якія пішуць пра палітыку не па загадзе адміністрацыі Лукашэнкі, вельмі складаная. Прадпрымальнікі баяцца даваць ім рэкламу, дзяржаўны „Белсаюздрук" адмаўляецца распаўсюджваць іх, друкарні, якія кантралююцца адміністрацыяй, павышаюць цэны за паслугі ў два разы ў параўнанні да дзяржаўнай прэсы. Адзіным выхадам, паводле Жука, можа быць стварэнне незалежнай ад дзяржаўнай сеткі распаўсюджвання і паліграфічных прадпрыемстваў з удзелам замежнага капіталу, якіх цяжка было б, без міжнароднага скандалу, канфіскаваць ці закрываць.

Сёння ў Беларусі зарэгістравана каля 1500 найменняў усялякіх часопісаў. Выходзіць іх менш чым 250. Дзяржаўныя газеты разыходзяцца тыражом 3,5 мільёна экземпляраў, апазіцыйныя, усе разам, маюць 180 тысяч чытачоў. Незалежныя газеты часта закрываюцца, таму іх колькасць, як і велічыня тыражу мяняюцца. Напрыклад, „Свабода", якая мела амаль 90 тысяч чытачоў, самаакуплялася, давала нават прыбытак велічынёю 10 тысяч долараў у квартал, не магла існаваць як надта канкурэнтная для прэзідэнцкіх сродкаў масавай інфармацыі. Парушала яна прытым манаполію на інфармацыю. Таму была закрыта. Новая газета, якая прадаўжае лінію „Свабоды", пачынала друкавацца 5-тысячным тыражом.

— Журналісты незалежнай прэсы, — сказаў старшыня Фонду падтрымкі незалежнай прэсы Зміцер Бандарэнка, — з'яўляюцца галоўнымі арганізатарамі акцый пратэсту супраць дыктатуры. Год 1997 у Беларусі характарызаваўся вялікай колькасцю нападаў на журналістаў незалежнай прэсы. Пачуццё пагрозы спрыяе пашырэнню праяваў салідарнасці ў гэтым асяроддзі.

Мікола Маркевіч, рэдактар гарадзенскай „Пагоні", сказаў, што яго незалежная газета не мае ніякіх шанцаў канкураваць на рынку з дзяржаўнай „Гродзенскай праўдай", якая мае датацыю з абласнога бюджэту, два разы меншую плату за друк, рэкламадаўцаў з дзяржаўных прадпрыемстваў.

— Мы можам рэкламаваць толькі тыя фірмы, якія хацелі б прыкончыць, — сказаў Маркевіч. — Рэклама ў незалежнай газеце абазначае для фірмы некалькі фінансавых кантроляў у год. Таму прадпрымальнікі гатовыя плаціць толькі за тое, каб пра іх не пісаць.

Віктар Івашкевіч, рэдактар газеты „Рабочий", паінфармаваў, што выдае яе без ніякай рэгістрацыі. Паводле законаў газета не існуе, таму і ніякі суд не можа яе закрыць. За год тыраж „Рабочага" дасягнуў 40 тысяч экземпляраў.

Генадзь Суднік, рэдактар „Магілёўскага тыднёвіка", сказаў, што дзейнічае на тэрыторыі, дзе ўраднікі ганарацца тым, што выхавалі сярод сябе прэзідэнта Лукашэнку. На 50 тысяч дзяцей, якія ходзяць у школу ў Магілёве, толькі 254 вучацца на беларускай мове. „І гэта ёсць дастатковай прычынай, каб выдаваць апазіцыйны часопіс", — сказаў Генадзь Суднік. Спадар Суднік выдае часопіс амаль падпольна, у сваёй кватэры, дзе адзіным супрацоўнікам рэдакцыі з'яўляецца яго сын. Журналісты мясцовай дзяржаўнай прэсы часам пішуць пад псеўданімамі, але штораз больш баяцца, каб іх прозвішчаў не расшыфравала служба бяспекі.

Рэдактар „Газеты Слонімскай" Віктар Валадашчук сказаў, што нягледзячы на ўсялякія перашкоды з боку ўлад удаецца яму канкураваць з мясцовай дзяржаўнай газетай. Калі тыраж незалежнай газеты набліжаецца да тыражу дзяржаўнай, тады слонімскія ўлады паддаюцца паніцы і пасылаюць фінансавыя кантролі. Міліцыя затрымоўвае прыватных распаўсюджвальнікаў, забараняецца таксама прадаваць газету ў крамах.

Палякі, якія слухалі беларускіх рэдактараў, ставілі шмат пытанняў, якія сведчылі, што так у сапраўднасці пра Беларусь ці нават усю постсавецкую прастору ведаюць вельмі мала, напэўна менш чым пра заакіянскую Канаду.

**Яўген Міранові́ч**

# Давайце дзейнічаць супольна

**Аб актуальнай сітуацыі ў Сярэдне-Усходняй Еўропе (з асаблівым улікам Беларусі) з праф. Ежы ДАМРОШАМ — ганаровым старшынёю Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне", гутарыць Міхал ЗАНЧЭЎСКІ.**

***— Спадар старшыня, чым цяпер займаецца Таварыства „Прыбліжэнне"?***

— На працягу сямігадовай дзейнасці Таварыства апраўдвала патрэбу ў існаванні грамадскай арганізацыі, якая цікавіцца ўзаемапрыбліжэннем і прымірэннем нацый, пражываючых паміж Нямеччынай і Расеяй, а менавіта палякаў, эстонцаў, латышоў, літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў. За гэты час правялі мы сем штогадовых семінараў, былі саўдзельнікамі канферэнцый і сустрэч, сарэдактарамі „Усходняга штогодніка", які выходзіць у Жэшаве. У 1994 г. распрацавалі мы мемарыял пра сітуацыю літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы, які быў перададзены, між іншым, у сеймавую Камісію па справах нацыянальных і этнічных меншасцей. „Прыбліжэнне" цесна супрацоўнічае таксама з Міністэрствам культуры і мастацтва ды іншымі ўстановамі.

Наш лозунг — „Больш нас спалучае, чым раздзяляе". Мяркуем, што ўсе спрэчныя пытанні і канфлікты паміж рознымі народамі гэтай часткі Еўропы трэба вырашаць у духу прымірэння, паколькі супольнасць гістарычнага лёсу, роднаснасць культур адкрываюць дарогу да пагаднення і садзеяння.

***— У праграме „Прыбліжэння" многа месца адведзена беларускім пытаниям. Якія цяпер справы займаюць вашу ўвагу?***

— Беларускае грамадства занята перш за ўсё выжываннем. Неабходнае, каб беларусы ў сваёй краіне і па-за яе межамі палічылі важным развіццё сваёй мовы, культуры і нацыянальнай тоеснасці, рознай ад польскай і расейскай. Палякі не зацікаўлены паланізацыяй беларусаў, паколькі лепш ім межаваць з незалежнай Беларуссю, чым з расейскай правінцыяй, тым больш што над паўночнай мяжой Рэчы Паспалітай рассеўся расейскі энклаў са сталіцай у Калінінградзе. У сваю чаргу расіяне намагаюцца поўнасцю русіфікаваць Беларусь і інтэграваць яе з Расейскай Федэрацыяй, у чым выдатна садзейнічае прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Там, дзе беларусы жылі разам з палякамі, захавалі яны сваю мову і культуру, а сімбіёз з расіянамі давёў да страты моў і заняпаду сваёй культуры. Таму мы выразна фармулюем пастулат аб неабходнасці падтрымкі для мовы і культуры беларусаў у Польшчы.

У мяне складаецца ўражанне, што беларуская інтэлігенцыя па-за межамі Беларусі можа адыграць гістарычную ролю ў працэсе адраджэння беларускай нацыі, якой мова і культура апынуліся пад пагрозай. Нацыянальнаму адраджэнню беларусаў могуць дапамагчы таксама палякі, якія разумеюць палітычныя шанцы, што ўзніклі перад беларускім народам. Аднак драматычная гаспадарчая сітуацыя ў Беларусі вядзе да маргіналізацыі нацыянальнага пытання.

***— Як ацэньваеце польскую ўсходнюю палітыку пасля 1989 года?***

— Пасля „вечнай дружбы з Савецкім Саюзам" і „савецкім народам" у дзевяностых гадах прыйшла чарга на супрацоўніцтва з новымі дзяржавамі, якія ўзніклі пасля развалу СССР. Аднак канчаткова сфармаваная ў другой палове дзевяностых гадоў тэорыя трансфармацыі дзяржаўнага ладу Польшчы абаперлася на прынцыпе перманентнага прыстасавання да стандартаў Еўрапейскага Саюза і такім чынам перамагла празаходняя арыентацыя. Знайшло гэта свой адбітак у не надта паслядоўнай польскай усходняй палітыцы, падтрымцы прымату кантактаў Варшава — Масква (згодна з канонамі замежнай палітыкі Захаду), ушчыльнянні ўсходняй граніцы — будучай усходняй мяжы Еўрасаюза. Адначасова загледжанасць на Захад і памяншэнне ролі „перадрасійскага" Усходу (Беларусь, Украіна, Прыбалтыка), празмерная ўступчывасць перад заходнееўрапейскімі інтэграцыйнымі структурамі ў значнай ступені абмяжоўваюць наша супрацоўніцтва непасрэдна з суседзямі з-за ўсходняй мяжы. Зрэшты, „поле ўздзеяння" на Усходзе паволі пераймае міжнародны капітал. Трэба адкрыта сказаць, што наша палітыка — малаактыўная і патрабуе сур'ёзнай мадыфікацыі. Падтрымка беларускай палітычнай апазіцыі аказваецца польскімі няўрадавымі асяроддзямі, якія не кантралююцца дзяржавай.

На маю думку, беларусам патрэбна моцная падтрымка — палітычная і эканамічная, а таксама дапамога ў галіне культуры і асветы. Польска-беларускія сувязі будуць ажыццяўляцца галоўным чынам на ўзроўні няўрадавых арганізацый і ўстаноў. Гэта дае магчымасць паглыблення кантактаў „Прыбліжэння" з рознымі беларускімі асяроддзямі. Існуе патрэба значнага пашырэння ў польскім грамадстве ведаў аб Беларусі і беларусах.

***— Як ацэньваеце кантакты „Прыбліжэння" з прадстаўнікамі грамадства Беларусі і беларускай меншасці ў Польшчы?***

— Недастатковыя яны. Сярод членаў маем некалькі асоб, якія выводзяцца з беларускага асяроддзя. Стараемся падтрымоўваць кантакты з БГКТ, беларускай секцыяй Польскага радыё, беларускімі інтэлектуаламі і навукоўцамі, а таксама пастаўнікамі. Маем сувязь з беларускімі і польскімі асяроддзямі ў Беларусі. Аднак кантакт з дзячамі ў глыбінцы ў нас зусім слабы.

***— Як ацэньваеце беларускі друк у Польшчы?***

— Мала ў нас беларускай перыёдыкі — усяго толькі „Ніва", польска-беларускія „Часопіс" і „Дыскусія" ды нерэгулярныя „Сустрэчы". Найважнейшая сярод іх — „Ніва". Па-за інфармацыйнай функцыяй павінна яна ўвесь час падтрымоўваць працэс нацыянальнага адраджэння і не займацца палітычным ці партыйным змаганнем. Раней ці пазней перамогуць тыя сілы, якія ўзмоцняць этна-культурную тоеснасць беларускага народа. Хацелася б мне бачыць больш матэрыялаў аб дружалюбным супрацоўніцтве палякаў і беларусаў у мінулым і цяпер, аб роднаснасці славянскіх культур, аб тым, што ўмеем быць добрымі суседзямі.

Наша Таварыства поўнасцю падтрымоўвае нацыянальныя памкненні і волю стварэння суверэннай беларускай дзяржавы. Падтрымоўваем таксама пастулаты беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і польскай меншасці ў Беларусі.

***— Дзякую за размову.***

# Дыскусія аб школьнай рэформе

У Падставовай школе н-р 2 у Гайнаўцы адбылася сустрэча дырэктара Метадычнага цэнтра ўдасканальвання настаўнікаў у Беластоку д-ра Яна Зенюка з настаўнікамі беларускай мовы наконт планаванай рэформы школьніцтва. Падобныя спатканні былі і ў іншых школах. Як у пачатковых, так і ў сярэдніх школах у час пасяджэнняў педсаветаў дырэктары інфармавалі настаўнікаў аб прадпасылках новай рэформы і неабходных зменах з ёю звязаных.

Паводле новай схемы школьнай адукацыі вучні пойдуць у абавязковую пачатковую ўжо ў 6 гадоў і пасля шасцігадовай адукацыі павінны пісаць праверачны экзамен. Вучоба ў трохгадовых гімназіях, якія паўстануць пры пачатковых школах, таксама закончыцца экзаменам, паводле якога вучні будуць паступаць у трохгадовыя агульнаадукацыйныя ліцэі. Пасля гімназіі будзе таксама магчымасць працягваць прафесійную адукацыю ў двухгадовай школе з магчымасцю папаўнення яе двухгадовым ліцэем. Адукацыя ў ліцэях мае закончыцца дзяржаўным матуральным экзаменам. Залежна ад яго рэзультатаў вышэйшыя навучальныя ўстановы будуць выраўшаць каго прымаць у студэнты.

Прадбачваюцца таксама радыкальныя змены праграм навучання, адыход ад энцыклапедычнай адукацыі, падрыхтоўка ў школе да самастойнага жыцця, да самастойнага павышэння ведаў. Настаўнікі больш увагі будуць адводзіць праверцы ўмеласцяў, менш ведам. Некаторыя прадметы спалучаны будуць у групы. На адным уроку вучань будзе мог чытаць вершы, знаёміцца з гісторыяй сваёй краіны, выдатным мастаком ці музыкам.

Аўтары рэформы навучання заяўляюць адначасна, што неабходны змены ў працы настаўніка. Дырэктары інфармавалі, што залежна ад катэгорыяў працы запланаваны розныя зарплаты. Маладога настаўніка думаюць называць стажорам, пасля настаўнікам па кантракце, настаўнікам, настаўнікам-спецыялістам, настаўнікам з дыпломам і прафесарам асветы. За тую ж самую колькасць гадзін настаўнік-прафесар атрымліваў бы на тры разы больш грошай, чым стажор. Каб стаць прафесарам асветы, трэба было б здаць дзяржаўны экзамен III ступені або мець абароненую дысертацыю. Стваральнікі новых прапаноў звяртаюць увагу, што ўсе гэтыя змены заахочвалі б настаўнікаў павышаць свае кваліфікацыі. Падставовыя школы фінансаваліся б гмінамі, сярэднія — павятамі. У выпадку інвестыцыяў іншлі б дзяржаўныя субсідыі.

— Многа гаворыцца аб рэформе, а не хапае звычайных дапаможнікаў. Каб зрабіць сапраўдную рэформу, а яна патрэбна, павінны быць сапраўдныя грошы, — кажа настаўнік тэхнікі з Гайнаўкі.

— У час спаткання Ян Зенюк хваліў новыя метады навучання, якія ўкараняюцца „на захадзе", але там зусім іншыя ўмовы працы, — гаворыць настаўнік беларускай мовы. — Ніхто не ведае, што будзе з беларускай мовай пасля зменаў.

— Калі ўсё будзе выканана так, як запланавана, думаю, што рэформа зробіць навучанне больш эфектыўным, — заявіў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко. — Мы ўжо спрактыкаваліся, што вучні 7 і 8 класаў зусім іншыя, чым малодшыя вучні. У ліцэях таксама можна заўважыць вялікую розніцу паміж першымі і чацвёртымі класамі, так што стварэнне гімназіяў будзе толькі на карысць вучням. Я думаю, што ўсе ў Гайнаўцы павінны з'яднацца, каб стварыць прынамсі адну гімназію з абавязковай беларускай мовай навучання. Змены ўжо пачаліся, бо згодна з распараджэннем міністра нацыянальнай адукацыі ўсе настаўнікі павінны падрыхтаваць да першага верасня 1999 года новыя праграмы навучання.

Пасля зманлівых заяў аб павышэнні зарплаты, паявіліся і прапановы ліквідаваць „Карту настаўніка" і некаторыя прывілеі з ёю звязаныя. Рэформа школьніцтва, так як і іншыя рэформы, патрабуе вялікіх фінансавых сродкаў, а планаванае павышэнне бюджэту асветы на 338 мільёнаў злотых гэтага пакуль што не гарантуе. Патрэбны адпаведныя пастановы Сейма, Сената і Прэзідэнта.

**Аляксей Мароз**

# Хто павінен выхоўваць дзяцей?

Нялёгка цяпер жывецца, а прычына гэтаму — не адна. Цяжка знайсці працу, а калі яна і ёсць, тады ў нашых думках тоіцца страх, каб яе не страціць. Таму маладыя жанчыны пасля нараджэння дзіцяці як найхутчэй вяртаюцца на працу. Ужо скончыліся тыя часы, калі маленькае дзіцятка два-тры гады гадавалася пры маці, якая была ў выхаваўчым водпуску. Пасля жанчына магла вярнуцца на сваё ранейшае месца працы. Цяпер маладыя мамы баяцца, што месца працы не будзе на іх чакаць. На жаль, гэта не выдумка жанчын, якія не хочуць марнаваць жыццё між гаршкамі і пялюшкамі. Гэта не вынік эмансіпацыі, але сумнай рэчаіснасці. На самой справе, пасля водпуску часта няма ўжо куды вяртацца.

У апошні час я некалькі разоў чула, як маладыя жанчыны наракаюць на сваіх маці. Многія дваццаці-трыццацігадовыя жанчыны лічаць, што іхнія бацькі павінны ўсе свае сілы аддаць унукам. Большасць маіх аднагодкаў мае вялікія прэтэнзіі калі дзед, часцей бабуля, не хочуць займацца іхнімі дзяцьмі. „Нам так цяжка, — наракаюць, — старыя не хочуць некалькі гадзін у дзень прысвяціць сваім уласным унукам". Праўда, многім маладым сем'ям цяжка жывецца і нават калі працуюць муж і жонка, не хапае ім грошай на неабходныя патрэбы. Аднак трэба памятаць, што гэта абавязак бацькоў выхоўваць сваіх дзяцей і калі хтосьці хоча нам у гэтым дапамагчы, вялікае дзякуй яму за гэта. Але часта не хочам бачыць, што нашы матулі не маюць столькі сілы і энергіі, каб бегаць за нашымі малечамі.

Бывае, што маладая маці з горыччу паведамляе сваю сяброўку: „Мая мама не хоча займацца ўнукамі, а я ўжо думала вярнуцца на работу". У думках абвінавачвае сваю маці. „Гэта яна, тая эгаістка, не спачувае сваёй дачцэ, не хоча дапамагчы". Часта ў голасе трыццацігадовай жанчыны чуем жаль і прэтэнзіі. А той бабулі, хаця яна яшчэ і нестарая, займацца ўнукамі проста зацяжка. Мы, аднак, дарослыя дзеці, гэты факт не хочам прыняць да свайго ведама. Вельмі прыкра, калі па гэтай прычыне нарастаюць канфлікты нават у найбольш згодных сем'ях. А хапіла б толькі менш наракаць і больш дзякаваць. А таксама добра было б з бацькамі гаварыць, а не сяброўкам жаліцца. Удзячнасць больш прынясе дабра і нам, і нашым бацькам, чымсьці застарэлыя прэтэнзіі і сварка. Найважнейшае — гэта згода і ўзаемная пашана. Выхоўваць дзяцей павінны, на маю думку, бацькі, бо гэта іх абавязак. Нават найлепшыя дзяды бацькоў не заступяць.

Для нас, людзей з беларускімі каранямі, вяжацца з гэтым яшчэ адна праблема. Нашы бацькі гавораць часта толькі па-беларуску, польскую мову ведаюць слаба, а калі гэтай мовы добра не ведаюць, то і нашых дзетак навучыць не змогуць. Перад намі, беларусамі ў Польшчы (палякамі беларускага паходжання, як гавораць некаторыя), стаіць адказнае заданне. Мы павінны выхоўваць сваіх дзяцей у пашане для дзвюх культур: беларускай і польскай, а з гэтым заданнем нашым бацькам намнога цяжэй справіцца чымсьці нам, маладым. Калі мы жывем у асяроддзі, якое гаворыць на другой мове, мы павінны таксама паслугоўвацца гэтай мовай у штодзённых кантактах. І не дрэнна, калі мы валодаць ёю будзем лепш, чымсьці тыя, для якіх яна з'яўляецца роднай. Беларус, пражываючы ў польскім асяроддзі, павінен даказаць, што ён не толькі беларус, але і адукаваны чалавек, якога варта цаніць і ёсць за што шанаваць. Нашы дзеці павінны ведаць хто яны і ўжо з самага маленства вучыцца пашаны да беларускай культуры, і таксама мець багатыя веды пра культуру польскага народа.

Будучыня ў нашых руках, а яна — нашы дзеці.

**Іаланта Грыгарук**

# У Орлі чытаюць...

Публічная бібліятэка ў Орлі існуе ад 1947 года і цяпер знаходзіцца ў новым школьным будынку. Налічвае яна каля 11 тысяч кніг (у тым ліку кніжкі на рускай і беларускай мовах) і 185 чытачоў. Пазычаюць тут кніжкі жыхары не толькі Орлі, але і Міклашоў, Кашалёў, Малінікаў і Рыгораўцаў.

— У мінулым годзе ў Гмінную публічную бібліятэку ў Орлі купілі сотню кніжак ды каталожную шафу, — сказала кіраўнічка ГПБ Гражына Насковіч. — Сто шаснаццаць кніг падарыла бібліятэцы мясцовая жыхарка Ірэна Пішчатоўская.

У Орлі найбольш чытаюць Зіна Кубаеўская, Лявон Байко, Мікалай Цымбалюк, Галена Яканюк, Павел Гаўрылюк і Аліна Пароўская. Найстарэйшай чытачкай з'яўляецца 73-гадовая Вера Валкавыцкая.

**(гаі)**

# Як экзаменаваць?

7 красавіка 1998 года ў Метадычным асяродку ўдасканальвання настаўнікаў у Беластоку адбыліся ўступныя экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, да якіх прыступіла каля сарака выпускнікоў розных школ Беласточчыны. У гэтым ліку прыехала 16 ліцэістаў з Бельскага і 12 з Гайнаўскага белліцэяў. Разам са сваімі вучнямі прыехалі іх настаўнікі і дырэктары — Зінаіда Навіцкая і Аляксандр Лаўрыновіч.

— Спачатку мы сустрэліся з прадстаўнікамі БГКТ, паслом Янам Сычэўскім і сакратаром Валянцінай Ласкевіч, якія з'явіліся арганізатарамі набору ў беларускія вышэйшыя ўстановы і камісіяй з чатырох асоб, што прыехалі з Беларусі, — сказаў намеснік дырэктара Гайнаўскага белліцэя Аляксандр Лаўрыновіч. — Праінфармавалі яны нас, што дыктоўку па беларускай мове пісаць будуць толькі выпускнікі белліцэяў. Заявіў я тады, што павінны пісаць усе або ніхто, з чым згадзілася дырэктар Бельскага белліцэя Зінаіда Навіцкая. Аднак прадстаўнікі БГКТ заявілі, што не будуць мяняць таго, што ўжо запланавана. Калі вучні беларускіх ліцэяў пісалі дыктоўку па беларускай мове, камісія вельмі хутка правяла кваліфікацыйныя размовы з выпускнікамі іншых школ. Дыктоўкі яны ўжо не пісалі. Пасля ўсе разышліся па групах і пісалі розныя тэсты, залежна ад напрамкаў, на якія хацелі паступіць. Тыя, якія марылі аб медыцынскім інстытуце, пісалі па біялогіі, хіміі і фізіцы, іншыя найчасцей па матэматыцы і замежных мовах. Калі камісія ацаніла працы, сабралі нас і праінфармавалі аб рэзультатах. Хаця дыктоўка не мела ўплыву на вынікі экзаменаў, камісія забрала працы на Беларусь. Тром выпускнікам белліцэяў, якія хацелі стаць лекарамі, камісія прапанавала псіхалогію. Іншыя прыняты былі на тыя напрамкі, на якія хацелі, хаця не ўсе ахвотныя трапяць у Менск і будуць вымушаны вучыцца ў Гародні (з Бельскага белліцэя 5 вучняў паступіла на англійскую мову, 4 — на медыцыну, 2 — на архітэктуру, 2 — на фізкультуру, 1 — на псіхалогію, 1 — на нямецкую мову, 1 — на эканомію; з Гайнаўскага белліцэя 7 — на медыцыну, 2 — на псіхалогію, 2 — на нямецкую мову, 1 — на інфарматыку). Дыскусію выклікаў падзел на тых, якія пісалі дыктоўку і тых, якія не пісалі.

— На маю думку вучні з Гайнаўкі і Бельска, якія не вучацца ў белліцэях, а хочуць ісці вучыцца ў Беларусь, самі могуць вывучыць беларускую мову і ўсе павінны здаваць аднолькавыя экзамены. Я не гавару ўжо пра іншыя мясцовасці, але ў нас дастатковая колькасць настаўнікаў беларускай мовы, — заявіла дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім Зінаіда Навіцкая. — Так, як было ў гэтым годзе, гэта паніжэнне значэння беларускай мовы.

— Я лічу, што першая справа, гэта зрабіць экзамен для вучняў белліцэяў і прыняць іх у першую чаргу, а калі яшчэ будуць месцы, тады рабіць экзамены для выпускнікоў іншых школ. Кожны, хто не вучыцца ў белліцэі, сам можа вывучыць беларускую мову і здаць па ёй экзамены перад камісіяй у Гайнаўскім ці Бельскім ліцэях, — сказаў намеснік дырэктара Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы Аляксандр Лаўрыновіч. — Як жа можа вучыцца ў Беларусі асоба, якая не вывучала ні беларускай, ні рускай моў, а такія ж у гэтым годзе туды пойдуць. Такія экзамены, якія праводзіліся ў гэтым годзе, гэта развал беларушчыны.

**(ам-з)**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Веснавыя гульні дзяцей з ПШ у Дубічах-Царкоўных.* Фота Славаміра КУЛІКА

# Памятайце пра Конкурс

10 мая 1998 года мінe тэрмін дасылання конкурсных прац на III Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. Напэўна некаторыя з Вас прымуць у ім удзел, дык яшчэ раз нагадаю пра хібы і памылкі, якія так часта здараюцца конкурснікам. Працы трэба падрыхтаваць у трох экземплярах і падпісаць іх крыптанімам. Неабходна адзначыць нумар узроставай групы. Свой сапраўдны адрас, імя і прозвішча трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам узроставай групы і крыптанімам, як на конкурснай працы.

Для дзяцей і моладзі пачатковых школ адведзена I група.

Вельмі часта дасылаеце працы са шматлікімі памылкамі. Памятайце тады, каб перш чым пашлеце свае творы, дайце іх для праверкі сваім настаўнікам беларускай мовы або іншым асобам, якія добра гэтую мову ведаюць. Са свайго боку горача заахвочваю прыняць удзел у конкурсе сваіх карэспандэнтаў. Думаю, што самай вялікай узнагародай (хаця і арганізатары прыдбалі вартасныя, грашовыя ўзнагароды) будзе выданне новага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных журы прац.

**ЗОРКА**

Сёння друкуем разважанні Ірэны Кулік „Беларус і яго характар", вылучаныя журы II Агульнапольскага конкурсу паэзіі і прозы і памешчаныя ў зборніку „Плыву морам майго жыцця".

# Польска-беларуская крыжаванка № 19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Łasica ▼ / Zamowa ▶ | | Oko ▼ / Mars ▼ | | Kawka ▼ / Dźwięk ▶ / Wosk ▼ | | | ▼ |
| | | | | | | Kraty / Wieloryb ▼ | |
| Sokółka ▶ | | | | | | | |
| Kwiatki ▶ / Pas ▶ | | | | | | | |
| | | | Koty ▶ | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 15:**

Іл, ямб, ілгун, яна, пажар. Яніна, імгла, Буг, нуда, нож, ванна, сябар.

Узнагароды, кніжку М. Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы", выйгралі: **Наталька Свентахоўская** з Кленік, **Марта Трашчотка** з Бельска-Падляшскага, **Уршуля Савіцкая** з Гарадка і **Эдыта Лаўрыновіч** са Старога Беразова.

Віншуем! Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы", або чакаць іх у сваёй школе.

## Настрой

я жыўлюся сказамі
стройнымі і простымі
надта ж цікавымі
ўжо бесчалавечымі

чароўная краса мінулага
што адышло —
беспаваротна

зазірнула ў праўду
захліснулася ад яе...

**Агнешка Х.**

## Краскі

Надзяліла вясна
Былін-красак
Прыгажосці жыцця
Добрым часам. —

На лугах кілімы
Цудна тканы,
Ля дарогі ручнікі
Вышываны.

Кожна краска мігціць
Фарбай пекнай,
Пчолкі і матылі
Бяруць нектар...

Прыляцеў грозны чмель,
Прысеў ціха;
П'е салодкі напой
Із келіха.

Рве дзяўчына ў прыпол
Вясны краскі,
На свой першы вянок —
Вянок шчасця.

**Уладзімір ГАЙДУК**

## Цукровая вата

Вы бачылі ніткі цукру,
як танцуюць вальс
вакол палачкі,
а пан у белым халаце
робіць нам цукровую вату?
Як думаеце,
ці падумаў бурак,
працыраючы з чарназёму
свой корань звычайны,
што чакае яго белы танец
у святочным паветры
і прагныя свету
вусны дзяцей?

**Міра ЛУКША**

Ірэна Кулік

## Беларус і яго характар

На свеце жыве шмат людзей. Аб адных гавораць, што яны спакойныя, аб іншых — нервовыя. Праўду кажучы, немагчыма кагосьці дакладна ацаніць без памылкі. Вядома, кожны мае іншы характар, у розных сітуацыях паводзіць сябе па-рознаму. Гэта і добра, бо я не ўяўляю сабе, каб усе, напрыклад, нічога іншага не рабілі, як толькі гневаліся адзін на аднаго ці цэлымі днямі адпачывалі ў ложку. Было б гэта зусім нецікава і нудна, а свет хутка б абрыд!

Як кожны іншы чалавек — афрыканін, японец ці паляк, так і беларус мае свае добрыя і дрэнныя рысы характару.

Часта чытаем вершы славутых беларускіх паэтаў. У вершы Янкі Купалы „Я мужык — беларус" сам загаловак многа кажа аб тым, кім з'яўляецца наш чалавек. У мяне таксама доўгі час асацыяваўся беларускі народ з сялянамі. Апошнім часам я зразумела, што гэта не ўся праўда. У гэтым моманце паявілася ў мяне пытанне: што гэта за такі чалавек, беларус? Які ж гэта народ? Адказаў вельмі многа, хаця не ведаю, ці хоць з адзін поўнасцю растлумачыць характар беларуса. Вядома, як і ўсюды, ёсць сярод беларусаў мяшчане і падзвіжнікі, героі, дурні і мудрацы, кожны паводзіць сябе адпаведна свайму розуму... Адно можна сказаць, народ беларускі — гасцінны, што не пра кожны скажаш. Ужо нашы продкі любілі ладзіць гасціны, запрашаць і ездзіць да сваякоў. Сёння гэта яшчэ не прапала, хоць менш ахвотна запрашаем ці ездзім нагасцяваць. Прычын гэтаму многа, але галоўнай з'ўляецца тое, што ўсё гэта звязана з выдаткамі.

Кожны чалавек ад іншых перш за ўсё адрозніваецца выглядам. На Беларусі пераважаюць людзі са светларусымі валасамі, менш беларусаў чарнявых. Вочы ў іх найчасцей блакітныя, шэрыя ці сінія. А калі гутарка ідзе пра характар, то людзі кажуць такое: „Там, дзе іншы апусціць рукі, беларус будзе цягнуць". Не кожны ў гэта верыць. Па-мойму, гэта праўда, бо хіба няма ў свеце людзей з такім характарам. Беларусы яшчэ і свабодалюбівыя. Я шчыра думаю, што няма нідзе такіх разумных і адначасова кахаючых свабоду людзей, як сярод беларусаў. У цяперашні час можна сапраўды шмат пачуць аб нянавісці, крыўдзе, якую робіць брат брату. Гэта сумнае. На сэрцы цяжка, калі падумаеш, колькі крыві на руках у людзей! Калісьці жылі ў згодзе, дапамагалі адзін аднаму, нягледзячы на ўласную карысць, хаця і пра гэта трэба думаць у жыцці.

Вельмі важным у жыцці ёсць тое, каб кожны перш за ўсё жыў згодна з самім сабою, умеў адрозніваць добра ад зла і быў свядомы таго, што робіць. Гэта галоўнае.

Беларус любіць жартаваць, смяяцца і гутарыць. Гэта вельмі добра таму, што без смеху было б вельмі сумна. Рэаліст у рэальным жыцці, вялікі фантаст і летуценнік у марах, вось такі ёсць беларус. Ласкавы і добры. Прыемна такое пачуць.



Талон „Зоркі" № 19
10.05.1998



*Палац Браніцкіх.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Беласток

Дакладная дата ўзнікнення горада Беласток — невядомая. Летапісец М. Я. Міхалкоўскі піша, што Беласток заснаваны ў 1320 годзе вялікім літоўскім князем Гедымінам. Другія летапісцы падаюць іншыя даты і іншых заснавальнікаў. Аднак у XV ст. Беласток быў малавядомым паселішчам. У той час такія гарады як Бельск-Падляшскі, Браньск, Сураж пражылі свой поўны росквіт як эканамічна-гандлёвыя цэнтры Падляшша. Беласток акружалі вялікія пушчы: Кнышынская, Букштэльская і крыху далей — Белавежская.

Пачаткова паселішча Беласток было ўласнасцю караля. У 1514 годзе кароль Зыгмунт Аўгуст аддаў Беласток Мікалаю Міхновічу-Рачковічу. У наступных гадах мясціна становіцца ўласнасцю магната Пятра Весялоўскага.

Пасля шведскіх войнаў у 1661 годзе Беласток і яго ваколіцу атрымоўвае на ўласнасць гетман Стэфан Чарнецкі за выдатныя ваенныя заслугі. Сам гетман жыў у тыкацінскім замку. Беласток тады быў толькі большай вёскай і Чарнецкі даў яго ў пасаг сваёй дачцэ, якая выйшла замуж за графа Браніцкага. Сям'я Браніцкага пабудавала тут прыгожы палац.

У выніку захадаў Браніцкага ў 1749 годзе кароль Аўгуст III надаў Беластоку гарадскія правы. З гэтага часу горад пачаў ажыўляцца. Паўстае многа рамесніцкіх майстэрняў, у якіх выробляюцца тканіны і дываны. Узнікае шпіталь, пажарная каманда і пошта. Вакол палаца Браніцкіх, званага „Версалем Падляшша", гуртуецца культурнае жыццё. У час трэцяга падзелу Польшчы Беласток апынуўся пад Прусіяй, а пасля напалеонаўскіх войнаў перайшоў ва ўладанне Расіі. У часы царскай няволі дзейнічалі тут вызваленчыя арганізацыі, якія пасля прымалі актыўны ўдзел у лістападаўскім і студзеньскім паўстаннях.

У гадах 1870-90 наступае хуткае развіццё беластоцкай прамысловасці. Існавала каля 200 прадпрыемстваў, у якіх працавала звыш 5 тысяч рабочых. Цяпер Беласток гэта вялікі горад і жыве там каля трохсот тысяч жыхароў.

**Аліна СІРОЦКАЯ, ПШ у Чыжах**

# Вараныя яйкі

*(чэшская народная казка)*

Адзін бедны чаляднік пайшоў блукаць па свеце ды вопыту набірацца. Вось ён ішоў, ішоў і адчуў, што ад голаду не можа на нагах стаяць. Завітаў ён тады ў шынок, загадаў прынесці яму куфель піва, чацвярцінку хлеба з сырам і папрасіў зварыць восем яек. Гаспадар яйкі прынёс, чаляднік пачаў па кішэнях мацаць, каб расплаціцца. Толькі ў кішэнях у яго ні гроша не засталося. Што ж рабіць? Вось ён выпіў піва, з'еў кавалак хлеба з сырам, схаваў яйкі ў кішэнях, пачакаў, калі гаспадар у склеп спусціцца, і выскачыў праз акно ў сад, а адтуль — на поле.

Гаспадар на чым свет стаіць лаяў бадзягу, які яго так бессаромна ашукаў, але з цягам часу забыў пра гэта.

Прайшло дваццаць гадоў, і ў адзін цудоўны дзень перад шынком спынілася багатая карэта, з яе выйшаў купец, зайшоў у шынок і загадаў прынесці яму куфель піва, чацвярцінку хлеба з сырам і восем яек укрутую. Гаспадар пачаў прапаноўваць багатаму купцу курачку, але ён ад курачкі адмовіўся і хацеў, каб яму прынеслі тое, што ён заказаў. Наеўся купец і папрасіў гаспадара падлічыць, колькі ён яму павінен заплаціць. Гаспадар падлічыў і кажа:

— Трыццаць грошаў!

Тут купец выняў кашалёк і адлічыў яму пяць залатых.

— Памылка выйшла, — запярэчыў гаспадар. — З вас трыццаць грошаў.

— Бяры, бяры, — кажа яму купец, — я плачу за аднаго бадзягу, чаляднік, які ў вас дваццаць гадоў назад спыніўся, заказаў тое ж самае, што і я, і не заплаціў.

Гаспадар пачаў распытваць, што гэта быў за чаляднік, і сказаў, што грошай не возьме, пакуль купец не растлумачыць яму ўсё падрабязна.

— Ну, каб табе зразумела было, скажу адно: я сам быў тым чаляднікам! — кажа купец.

Гаспадар крыху памаўчаў, а пасля зацягнуў другую песню:

— Ах, найдаражэйшы, давядзецца вам цяпер разлічвацца па-іншаму! Падумаць толькі, восем яек! Калі б я тады палажыў іх пад квактуху, праз дваццаць гадоў у мяне магла б быць нядрэнная гаспадарка! Я цяпер усё гэта падлічу, а вы мне заплаціце, а не заплаціце — да суда справу давяду!

Купец спачатку толькі смяяўся над яго словамі, але гаспадар паклікаў старасту, расказаў яму пра ўсё, запісаў, дзе жыве купец. А праз два тыдні купец атрымаў скаргу.

Купец раззлаваўся на гаспадара шынка з-за таго, што не мінуць яму цяпер турбот з судом, і стаў ад усяго гэтага нервовы і няшчасны.

У гэтага купца быў прыказчык, добры, сумленны чалавек, правая рука свайго гаспадара ў любой справе. Ён заўважыў, што купец месца сабе не знаходзіць, і пачаў распытваць. Той расказаў аб сваёй спрэчцы з гаспадаром шынка і аб тым, што цяпер давядзецца справу з судом мець.

— Варта з-за гэтага бедаваць! — кажа яму прыказчык. — Пайдзіце і скажыце суддзі, што берацe мяне сваім абаронцам, і ўбачыце, што шынкар нічога не дамажацца!

Купец зарадаваўся і заявіў вярхоўнаму суддзі з замка, што бярэ сабе абаронцу.

Праз некалькі дзён пачаўся судовы разбор. Купец прыйшоў своечасова, а гаспадар шынка са сваім абаронцам яшчэ раней. Купец папрасіў усіх трошкі пачакаць свайго абаронцу. Вярхоўны суддзя згадзіўся, але вось прайшла гадзіна, шынкар быў як на іголках, а яго абаронца стаў гаварыць, што ўжо час пачынаць.

Вось-вось павінен быў пачацца разбор, як раптам адчыніліся дзверы і зайшоў прыказчык.

— Вось і я тут! — заявіў ён.

— Хто вы такі і што вы тут робіце? — накінуўся на яго суддзя, але купец растлумачыў, што гэта і ёсць абаронца.

— Чаму ж вы своечасова не прыйшлі? — раззлаваўся яшчэ мацней суддзя. — Чакаем вас ужо цэлую гадзіну.

— Прашу прабачэння, — сказаў прыказчык. — Толькі я раней не мог прыйсці. У брата майго домік ёсць ды шматок поля. Задумаў ён на тым полі пасеяць гарох, вось я і прывёз мяшочак гароху з нашай крамы. Але, самі ведаеце, пакуль зварыш гарох, пакуль ён астыне, каб яго можна было пасеяць, — час вельмі ідзе!

— Што вы балбочаце? — засмяяўся вярхоўны суддзя. — Дзе ж гэта бачана, каб вараны гарох сеялі? Ён жа ў вас не ўзыдзе?

— Як не ўзыдзе? Калі з вараных яек квактуха можа кураня́т выседзець, як напісана ў скарзе гаспадара шынка, значыць, і вараны гарох сеяць можна.

Тут вярхоўны суддзя адвёў гаспадара шынка ўбок, пагутарыў з ім, той разам са сваім абаронцам і пайшоў ціхенька дадому, нават прысуду не стаў чакаць. Тым суд і скончыўся.

# Што думае маладзенькі дубочак?

Расту я сабе, расту, а тут і вясна набліжаецца. Сонейка свеціць і я цяпла тут на ўскрайку Белавежскай пушчы чакаю. Расту, расту, расту.

Трава мне пачала перашкаджаць, яе так многа, а яшчэ вылазіць. Там глыбей, то прынамсі як у лесе... мох, а тут трава. Аж сорамна сядзець у такім асяроддзі. Я ж дуб, а не травінка. А яны, гэтыя нягоднiцы, мне нават між галінак уціскаюцца. Каб мох рос вакол, то і я быў бы як іншыя дубы. Я яшчэ невялікі, якраз да каленяў тым, што тут часта ходзяць. Але нічога, пачакайце, а я вам яшчэ пакажу, што я не травінка і не кусцік. Праз трыццаць гадоў і я буду дарослым!

**Іаланта Грыгарук**

# Анатоль Вольны

Анатоль Вольны быў адным з найбольш таленавітых беларускіх празаікаў міжваеннага перыяду. Нарадзіўся 2 снежня 1902 года ў вёсцы Пухавічы каля Менска. Яго бацькі былі служачымі ў памешчыцкіх дварах. У сапраўднасці называўся Анатоль Ажгірэй. Вольны — гэта яго літаратурны псеўданім, які, так як для большасці літаратараў тае эпохі, заступіў прозвішча.

У 1915 годзе Анатоль Вольны закончыў гімназію. Вайна не дазволіла на далейшую адукацыю. У 1920 годзе стаў ён салдатам Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі мог прадаўжаць навуку на першым беларускім універсітэце, які ўзнік у Менску ў 1921 годзе. Быў адным са стваральнікаў літаратурнага аб'яднання „Маладняк". Літаратурную дзейнасць пачаў у 1920 годзе вершамі на тэму рэвалюцыі, якой быў вялікім прыхільнікам. У палове дваццатых гадоў былі выдадзены яшчэ два зборнікі яго вершаў — „Чарнакудрая радасць" і „Табе". Пасля пісаў выключна аповесці, п'есы, гумарэскі і фельетоны. У 1925 годзе выдаў аповесць „Два", у 1927 г. „Антон Савіцкі" і „Зборнік фельетонаў", а ў 1932 г. кнігу гумарэсак „Суседзі".

Найбольшых поспехаў дачакаўся як аўтар п'ес і камедый. П'есы „Міколка" і „У аграномa" ставіліся ва ўсіх тэатрах Беларусі. Пісаў сцэнарыі для фільмаў — „Хвоі гамоняць", „Гатэль «Савой»", „Сонечны паход", „Новая радзіма".

Анатоль Вольны падзяліў лёс усіх беларускіх савецкіх літаратараў. Быў арыштаваны бальшавікамі ў лістападзе 1936 г. і расстраляны 29 кастрычніка 1937 года.




*Мал. Ані БАЧЫНСКАЙ і Монікі ЯКІМЮК*

...Фантастычная гэта моладзь, цудоўна паводзіць сябе!

# Глыток свежага паветра

Скажам шчыра: Беласток як культурная адзінка пакідае чакаць многага. Таму тым больш дзіўна, што нават у часе такога мерапрыемства, як Міжнародны тыдзень тэатра, які праходзіў у канцы сакавіка ў Беластоцкім драматычным тэатры імя А. Вянгеркі, не ўсе месцы на асобных спектаклях былі занятыя. А вось на камедыю з вядомымі варшаўскімі акцёрамі білет у апошні момант не купіць!

Вядома, рэпертуар, які прадстаўляецца ў часе тыдня тэатра, — нялёгкі, у большасці авангардны. Не кожнаму ён даступны, бо засвойваецца не так лёгка. А ўсё-такі хацелася б павіншаваць кіраўніцтва тэатра імя А. Вянгеркі, а асабліва яго дырэктара Анджэя Якімца, што спакусіліся на такое мерапрыемства і ў не цалкам спрыяльных умовах змаглі яго рэалізаваць. Шосты Міжнародны тыдзень тэатра паказаў, што гэтае мерапрыемства стала Беластоку ўжо проста неабходным.

Што датычыцца выступлення Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, дык гэта для нас справа прыярытэтная. Мы за гэты тэатр змагаліся і цешымся, што на працягу апошніх гадоў беластачане змаглі пазнаёміцца з яго найлепшымі здзяйсненнямі. Вядучы беларускі драматычны тэатр на гастролях у Беластоку — гэта шанц для тых, хто цэніць беларускае сцэнічнае майстэрства? Лічу, што для вучняў беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы, для студэнтаў Кафедры беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, а таксама для ўсіх беларусаў Беласточчыны, якім не чужое замілаванне да роднай культуры, была гэта сапраўдная нагода. Крысціна Канецкая з „Gazety Współczesnej" назвала (вельмі цёпла) выступленні купалаўцаў „глытком свежага паветра".

Наконт таго, як праходзіў сёлетні Міжнародны тыдзень тэатра ў Беластоку, гутарым з кіраўніком Бюро абслугоўвання гледача ў тэатры імя А. Вянгеркі **Анджэем БАРКОЎСКІМ**.

***— Ці зацікаўленне беларускімі спектаклямі было вялікае?***

— Ну што ж, найлепш прададзеным спектаклем быў „Дзядзя Ваня" паводле Чэхава, пастаўлены Рускім драматычным тэатрам з Вільні. Шмат білетаў закупіў „Orthdruk", многія іншыя прадпрыемствы, студэнты рускай філалогіі. Стопрацэнтная фрэквенцыя была на спектаклі тэатра „DEREVO" (Санкт-Пецярбург — Дрэздэн).

Але і на спектаклях купалаўцаў фрэквенцыя была вялікая. „Чароўную ноч" паводле Славаміра Мрожака на малой сцэне ставілі два разы, і зауёды зала была поўная.

***— Кім найбольш гэта зала была запоўнена?***

— Адзін спектакль поўнасцю закупіў Гайнаўскі беларускі ліцэй. Фантастычная гэта моладзь, цудоўна паводзіць сябе! Вельмі яна ўражлівая, жыва рэагуе на кожнае слова. Мне давялося пазней гутарыць з артыстамі, яны былі моладдзю надзвычай задаволены.

На спектакль з Гайнаўкі прыехалі двума аўтобусамі, было сто дваццаць асоб. Разам з моладдзю прыехаў дырэктар ліцэя Яўген Сачко. Перад спектаклем ён сказаў вучням некалькі слоў пра тэатр, падкрэсліў, што яны павінны сябе тут дастойна паводзіць.

Былі і іншыя гледачы з Гайнаўкі. Я асабіста бачыў Міколу Бушко.

***— Ці былі ў тэатры таксама вучні Бельскага беларускага ліцэя?***

— З Бельска на спектакль „Парфён і Аляксандра" Міколы Манохіна прыехала каля шасцідзесяці вучняў. Быў усяго адзін аўтобус. Зрэшты, калі мы званілі ў школы з беларускай мовай, ні ў кога не было ніякіх праблем, толькі з транспартам.

Я лічу, што Бельск можна было б разварушыць больш. Мы маглі б ім наладзіць сустрэчу з акцёрамі. Асабістыя кантакты спрыяюць глыбейшаму знаёмству з тэатрам.

***— А ці не ўдалося б неяк наблізіць беларускі тэатр да публікі ў раёне?***

— Чаму ж не! Умовы дзеля гэтага ёсць. Можна было б паставіць спектакль і ў Бельскім доме культуры, і ў Гайнаўскім някепская сцэна таксама. Ёсць дзе там пераначаваць акцёрам, дык можна гэта было б наладзіць нават тады, калі тэатр будзе вяртацца дахаты, так сказаць, па дарозе.

***— Як вы „арганізоўвалі" беларускія спектаклі? У эпоху ж актыўнага тэлебачання гэта трэба рабіць асабліва старанна...***

— Мы выслалі цэлую праграму Міжнароднага тыдня ў школы і ў шматлікія дамы культуры. Праўду кажучы, мы найбольш разлічваем на моладзь, якая вучыцца. На вучняў, студэнтаў. Таму непасрэдна тэлефануем у школы і культурныя ўстановы ў розных мясцінах, паведамляем, запрашаем.

***— Ці супрацоўнічаеце вы пры гэтым з Беларускім таварыствам?***

— Вядома. Ад першых „Дзён" мы дасем ім плакаты, каб яны па меры магчымасці распаўсюдзілі іх у раёне (на які абапіраюцца яны ў сваёй працы). Даем таксама штогод нейкую колькасць бясплатных запрашэнняў на беларускія спектаклі. Прадстаўнікі БГКТ уручаюць кветкі беларускім акцёрам. Хацелася б, аднак, каб наша супрацоўніцтва было больш цеснае. Гэта дало б карысць абодвум бакам.

***— Генеральны консул РБ у Беластоку Мікалай Крэчка, вялікі аматар балета, высунуў у апошні час думку, што варта было б запрасіць у Беласток балет Беларускага тэатра оперы і балета, які ў апошні час параўноўваецца з тэатрамі Масквы і Пецярбурга. Ён нават бярэцца аформіць пакрыццё прынамсі паловы коштаў іх прыезду ў Беласток.***

— О! Гэта была б для беластачан сустрэча з мастацтвам з вялікага „М", нагода кантакту са светам. Такі спектакль купяць з заплюшчанымі вачыма.

***— А што б вы наогул маглі пажадаць Міжнароднаму тыдню тэатра?***

— Каб разрастаўся не абавязкова ў сэнсе колькасці, а больш у сэнсе якасці. Добра, што ён прынамсі ёсць. Маю надзею, што будзе лепшы.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыла Ада Чачуга**

# Музей у Бельску запрашае

Культурнай падзеяй у красавіку ў Бельску была выстаўка жывапісу амерыканкі С'ю Фрэмген (Sue Fremgen) „Мой свет". Народжаная ў 1938 годзе жыхарка Чыкага апошнімі гадамі вучылася ў бельскім Іканапісным ліцэі. У аднаўленай зале на другім паверсе старой бельскай ратушы можна было паглядзець (і купіць) яе пейзажы, партрэты, нацюрморт. „Непароджаная прыгажосць ёсць ва ўсім вакол нас: у людзях, кветках, і бачных колерах. Люблю адкрываць гэтыя формы, колеры і людзей, малюючы іх на палатне, каб кожны мог ім прыглядацца, пазнаваць іх", — напісала аўтарка ў каталозе выстаўкі. С'ю Фрэмген малюе алеем на палатне ды выкарыстоўвае вядомую са старажытных часоў тэхніку — энкаўстыку, то-бок васковы жывапіс (дададзены да фарбы пчаліны воск захоўвае карціну ад вільгаці і можа яна зберагацца нязменнай нават тысячагоддзі).

Можна яшчэ глядзець выстаўку „Тайны Бельска. Замкавая вуліца". Гэта плён мінулагодніх археалагічных раскопак, якія праводзіліся ў час мадэрнізацыі гэтай адной са старэйшых вуліц горада. Будзе яна адкрыта да двухдзённай навуковай канферэнцыі — 19-20 мая, у час якой будуць падведзены вынікі працы Падляшскай археалагічнай экспедыцыі Польскай акадэміі навук за мінулы год. Канферэнцыю арганізуе кіраўнік экспедыцыі Дарыюш Краснадэмбскі. Прымуць у ёй удзел таксама археолагі з Беларусі і Украіны, якія працавалі ў гэтай экспедыцыі. Будзе можна тады ўбачыць знойдзеныя імі экспанаты ў розных месцах Беласточчыны: у Гацьках, Малочках, Лявонавічах, Клюковічах і іншых.

У пачатку чэрвеня, калі ўвесь горад будзе святкаваць „Дні Бельска", у ратушы адкрыецца выстаўка „Мастацкае рамяство XVIII — пач. XX ст.ст." Будзе на ёй прэзентавацца шкло, фарфор, срэбра са збораў Дзяржаўнага музея ў Беластоку.

На канікулах тыя бяльшчане, хто не збіраецца ў цёплыя краіны, змогуць у сваім музеі палюбавацца краявідамі Туніса. Аўтар фатаграфій Пётр Нестаровіч, хоць і варшавяк, мае карані ў Орлі. Там нарадзіўся яго бацька, Мікалай Нестаровіч, вядомы аўтар дакументаліст на Польскім тэлебачанні. Сын не застаецца ў цяні бацькі і набывае ўсё большую вядомасць як аўтар фотарэпартажаў з экзатычных краін.

Напрыканцы красавіка Рэгіянальны музей у Беластоку, а разам з ім і яго адддзел у Бельску, набылі статус дзяржаўнага. Віншуючы працаўніц Музея ў Бельску з павышэннем рангу іх установы, трэба мець надзею, што дзякуючы гэтаму лягчэй будзе прыдбаць сродкі на даканчэнне яго рамонту. Ужо сама ратуша з XVII стагоддзя, у якой размясціўся музей, гэтага вартая. А калі там яшчэ вядзецца цікавае культурнае жыццё, дык вартая ўдвая.

**(ак)**

# Спадарожнікавыя рэфлексіі

Адзін мой сусед мае спадарожнікавую антэну, другі таксама. А вось, бачу і трэці купіў? А я што, горшы за іх? Якраз атрымаў прэмію ды доўга не думаючы, абзавёўся „талеркай" і я. Першы тыдзень сядзеў я перад тэлевізарам аж да світанку. Ноч у ноч! Нарэшце прыйшла рэфлексія — дурны я, ці што? Ноч траціць на нейкія там фільмы, а ўдзень хадзіць ледзь людзей бачачы? Пачаў глядзець перадачы нармальна, выбіраючы, як дагэтуль, толькі тыя, што мяне могуць зацікавіць.

Раней мне думалася, што калі буду мець спадарожнікавую антэну, мой кругагляд пашырыцца, глыбей зазірну ў свет. Аказваецца, што не! Усе цікавейшыя здарэнні ў свеце паказваюць амаль усе тэлестанцыі — ці то польскія, ці замежныя. Тое самае датычыць фільмаў, тэлесерыялаў. Яны табуном перакочваюцца па ўсіх каналах. Я хутка пераканаўся, што свет — гэта малая мясціна. Усе аб усіх даведваюцца ўсяго ў той жа час.

Другое, што мяне „засякло", гэта тое, што польскія тэлеперадачы зусім не горшыя за замежныя. А дагэтуль мне здавалася, што яны найгоршыя ў свеце! Усюды поўна звычайнай балбатні. Аднойчы „перасхаўся" я па ўсіх з лішкам трыццаці каналах і амаль усюды мог паглядзець „гаворачыя галовы", за выключэннем музычных і канала моды.

Іншая мая рэфлексія звязана з адсутнасцю польскай тэмы ў замежных перадачах. Пачынаючы з 19 сакавіка, калі я пачаў карыстацца спадарожнікавай антэнай, толькі два разы (якраз на канале „DW") мільганулі кароценькія рэпартажы на тэму непаладкаў у ахове асяроддзя ў ваколіцы Плоцка і недзе пад Шчэцінам. Мы тут, у сябе, проста шкуру адзін з другога здзіраем, а ў свеце нікога гэта не цікавіць. А пра Беларусь ніхто і не заікнецца, быццам яна не існуе. Каб не нашы сродкі масавай інфармацыі, я б забыўся, як выглядае наш слаўны Аляксандр Лукашэнка.

Нарэшце хачу сказаць, што толькі цяпер я пераканаўся, што значыць веданне замежных моў. Калі іх не ведаеш, тады глядзіш на тэлевізар, як той вол на маляваныя вароты. У рэшце рэшт абмяжоўваешся толькі да музычных ці прыродазнаўчых перадач. Ну, і яшчэ да эратычных фільмаў ці перадач, у якіх больш важнае што бачыш, чым тое, што чуеш!

Усё ж, нягледзячы на ўсё вышэйсказанае, не шкадую, што абзавёўся спадарожнікавай антэнай. Ці адна цацка больш можа пашкодзіць?

**Пётр Байко**

# Санаторная перспектыва

Нядаўна пачуў я ў радыёперадачы, што Крынкі распаложаны на падземным возеры, з якога мясцовы ГС бярэ ваду для вытворчасці газіраваных напояў і мінералкі „Крынка". Сапраўды, гэта вельмі смачная вада. Цяпер ГС у Крынках разбудоўвае завод, які будзе выпускаць 1800 літраў вады ў гадзіну у 3- і 5-літровых бутэльках.

На маю думку, калі мінеральная вада мае лячэбныя якасці, варта было б у Крынках пабудаваць санаторый. Важнае пры гэтым і тое, што там чыстае паветра, а і мясцовыя беспрацоўныя мелі б занятак. Можна было б для гэтай мэты выкарыстаць таксама будынкі былога ПГРа.

Варта, каб гэтай справай пацікавіліся мясцовыя і ваяводскія ўлады ды беластоцкія парламентарыі.

**Мікалай Лук'янюк**

# Ушанаванне загінуўшых



26 красавіка г.г., як штогоду ў першую нядзелю пасля Вялікадня, у Орлі адбылося традыцыйнае шэсце да магіл рускіх і нямецкіх салдат, загінуўшых у I сусветную вайну і пахаваных на старым цэрквіску, там, дзе калісь, да паловы XVIII стагоддзя стаяла першая царква св. Сімяона Стоўпніка. У 1988-1994 гадах на гэтым жа цэрквіску намаганнямі настаяцеля а. Аляксандра Такарэўскага была збудавана мураваная капліца ў гонар св. Сімяона Стоўпніка, якую 16 ліпеня 1995 года высвяціў мітрапаліт Васілій.

Пасля багаслужбы ў Міхайлаўскай царкве хрэсны ход выйшаў на вуліцу Бельскую. У Сімяонаўскай капліцы святар адправіў паніхіду, а пасля прывітаў прыхаджан трохкратным радасным „Хрыстос уваскрос" і сказаў:

— Вельмі прыемна, што маем куды прыйсці і дзе спыніцца. Гэтае месца у свой час, на працягу многіх гадоў, было забыта зусім, а цяпер гэтая невялікая цудоўная царкоўка ўпрыгожвае месца, на якім калісьці стаяў праваслаўны храм. Побач спачываюць воіны і мы сёння прыйшлі памаліцца, каб Гасподзь быў міласэрны ў адносінах да іх душаў, каб Гасподзь не пазбавіў іх нябеснага свайго царства. Што мы можам сказаць ім на развітанне? Можам паўтарыць хаця б словы паэта:

*Спите, орлы дорогие, спите*
*спокойной душой,*
*Вы заслужили, родные, славу*
*и вечный покой...*

Пасля хрэсны ход (глядзі: здымак) абышоў капліцу, а настаяцель асвяціў салдацкія магілы. Затым шэсце вярнулася ў царкву. Надвор'е ў гэты дзень было надзвычай цёплае. Урачыстасць традыцыйна ўжо прыцягнула натоўпы святочна адзетых жыхароў мястэчка і наваколля.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Дзе з Богам родная размова

Сорак пяць асоб сабралася 24 красавіка 1998 года ў мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, каб стаць заснавальнікамі новай праваслаўнай абшчыны — беларускай праваслаўнай парафіі ў Мінску. Мітрапаліт паспрыяў стварэнню новай царквы — царква гэта ж супольнасць людзей, аб'яднаных Хрыстом, і блаславіў пачын.

Мітрапаліт Філарэт служыць на Беларусі з 10 кастрычніка 1978 г., з'яўляецца ганаровым доктарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта, узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Пад кіраўніцтвам мітрапаліта Філарэта замест адной Мінска-Беларускай епархіі, якая з'яўлялася шэрагавай епархіяй Маскоўскага патрыярхату, на працягу 1989-1992 г.г. было адроджана і навоўтворана дзевяць праваслаўных епархій. Па яго ініцыятыве быў утвораны Беларускі экзархат Маскоўскага патрыярхату, другой афіцыйнай назвай якога з'яўляецца „Беларуская Праваслаўная Царква". Стаяў ля вытокаў і блаславіў стварэнне першага ў Беларусі Беларускага праваслаўнага брацтва ў імя Трох Віленскіх мучанікаў. З блаславення мітрапаліта створана Біблейная камісія, якая ажыццяўляе пераклад кніг Новага Запавету на беларускую мову. Падчас святкавання Дзён беларускага пісьменства і друку ён урачыста перадаў у Свята-Духаў кафедральны сабор Святое Евангелле на беларускай мове для ўжывання яго ў багаслужбах.

Дзе сустрэнецца ў імя Божае хоць двое людзей, з імі ёсць Бог. Царква — гэта вучні Хрыста. Бог разумее нашу мову. Ён жа ж выратаваў яе ад знішчэння, хоць таптал і яе і глумілі і стараюцца дабіць яе ўсімі, нават сатанінскімі сіламі... Трэба арганізавацца і дзейнічаць. Каб зарэгістраваць новую рэлігійную суполку, трэба хоць дзесятак заснавальнікаў. Тут чатыры месяцы назад сабралася сорак пяць асоб. Пачалі захады, раіліся юрыстаў і іншых кампетэнтных асоб. Прадставілі мітрапаліту свой статут, на заснавальніцкім сходзе выбраць трэба было раду і праўленне і выпрацаваць стратэгію дзейнасці. Сярод гэтай групкі пачынаючых ёсць вядомыя пісьменнікі, навукоўцы, педагогі, грамадскія дзеячы, медыкі, мастакі, журналісты, студэнты... Леанід Дзягілеў, Уладзімір Конан, Анатоль Клышка, Валянціна Трыгубовіч, Ганна Сурмач, Андрэй Федарэнка, Людміла Рублеўская, Васіль Жуковіч... Старшынёй, а заадно святаром парафіі выбраны а. Георгій Латушка, намеснікам — архітэктар Мікалай Сальнікаў, скарбнікам — студэнт Андрэй Пароднікаў. У прыхадскай радзе ёсць майстры на ўсе рукі — хоць бы хірург Вячаслаў Казелька, майстар у дрэве Валерый Карачун, урач Расціслаў Хмель... У планах — стварэнне пры прыходзе брацтва. У гарсавет звярталіся ўжо выдзеліць зямельны ўчастак пад пабудову храма. Аднесліся там да прыхаджан прыхільна. Запрапанавалі ім м.інш. пляц ля Свята-Духаўскага сабора (але патрабуецца аднаўляць царкву на старажытных узорах), на Замчышчы каля Свіслачы (тут пабудаваць можна невялікую царкоўку), а таксама добрае і віднае месца на ўзгорку ў раёне Уручча. Вядома, мяркуюць прыхаджане, найлепш было б мець царкву ў цэнтры горада, тым больш што ставілі б храм на сімвалічным, моцным для народнага духа месцы. Але мітрапаліт раіць, каб прыняць больш пляц.

— Гэта ж таксама для наступных пакаленняў, — мяркуе ўладыка. — Трэба ахопліваць новыя раёны, каб хапіла месца і на прыхадскі дом, і на школу. Тым больш, што на Уруччы няма яшчэ царквы.

— Добра, што і моладзі ў нас шмат, — заўважыла „немаладая" паэтэса Людміла Рублеўская. — Вось гэтыя хлопцы з Акадэміі мастацтваў... На вуліцы чалавек можа і абмінуў бы такога здалёк — доўгія валасы, завушніца ў вуху...

Ці гэта мода ў наш час — гарнуцца да хрысціянства? З аднаго боку — і так бывае. А тут сабраліся людзі, якіх называем інтэлігенцыяй (тут справа не ў шкалярскай адукацыі), якія хочуць ісці дарогай асветленай Хрыстовай навукай, якая гучыць па-беларуску.

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



# Яны ахоўваюць нас штодзённа

[1 ☞ працяг]

У Ласінцы, дзе пахаваны родныя Ніны Кавальчук, Провады называлі *бабскім святам*. У ўдзельнічалі, як падказвае назоў, пераважна старэйшыя жанчыны. Пасля набажэнства ладзілі абед на могілках. Каля магілы рассцілалі палаценца і частаваліся паскай — абрадавым велікодным пірагом, яйкам, мясам. Частку яды пакідалі на магілах. Калі нябожчык пры жыцці любіў выпіць, лілі яму на магілу чарачку гарэлкі. Усе размовы адводзіліся памерлым, *радзіна* расхвальвала іх рысы характару, успаміналі добрыя ўчынкі, славіла іх поспехі і паводзіны. Часта чуліся галашэнні або памінальныя песні.

— Бывала, так бабы папапіваюць, што з фурманкі падаюць, — успамінае цётка Ніна.

**Яны ахоўваюць нас штодзённа**

Ніна Кавальчук — 70-гадовая пенсіянерка, штодзённа памінае *ўсопшых* сямейнікаў.

— Скажу *пацыр*, а пасля малітву, якую бабка мяне яшчэ навучыла.

*Номені Господі ўсопшых Раб Твоїх:*
*Стэпана, младзенца Ніну, Любу, Івана,*
*Фёдара, Параскеву, Мар'янну, Антона,*
*Марту, Аналона, Марка.*
*Госпадзі, дай ім жызнь вечную*
*І Царство Небесное,*
*А мнiэ нуочку пэрэспаті*
*І дэнька прыждаті.*

— *Стэпан*, — паясняе па-падляшску Ніна Кавальчук — мой пакойны муж. Два гады будзе як мяне пакінуў. *Младзенец Ніна* — 2-гадовая дачушка памерлая ў вайну, *Люба* — сястра, *Іван* — дівэрык (швагер), *Фёдар* і *Параскева* — бацькі, *Мар'янна* і *Антон* прабабка з прадзедам, а *Марко* — прапрадзед з боку бацькі.

— Чаму памінаеце іх штодзённа перад сном?

— Каб *усопшыя* добры сон паслалі. Бо добры сон — гэта добрае здароўе.

Ніна Кавальчук моліцца за вечны адпачынак сваіх родных, а яны ахоўваюць яе здароўе, маёмасць, дзяцей і ўнукаў. І бывае, што ў сне пра бяду яе папярэджваюць. Вось, нядаўна, цыганы прысніліся, быццам на рынку ў Гайнаўцы да яе пачапіліся, падзерліся між сабою.

— Думаю, зладзеі наскочаць. І што думаеце? Два дні пазней у вёску румыны прыехалі, жабрачылі. Я закрыла на замок хату і на лавачку выйшла. Два злоты для іх на адчэпнае дала. А суседка, таксама самотная рэнтыстка, да хаты іх упусціла. Так яе загаварылі, заварыжылі, што кілаграм цукру і пяцьсот злотых з крэдэнса прапала. І што скажаце? Хто, як не родныя, мяне папярэдзілі?

* * *

Чачэнцы абавязаны ведаць гісторыю свайго роду прынамсі да сёмага пакалення назад. Іхнія арыстакраты — да дваццаць першага. Ніна Кавальчук ведае сваіх продкаў да чацвёртага пакалення. Пан Мікалай з Беластока не раскажа сваёй унучцы нават пра свайго дзеда.

— Żeby nie mącić dziecku w głowie.

**Ганна Кандрацюк**

# Патрэба — маці навінкі

Калі ў нас людзі хочуць ушанаваць памяць сваіх продкаў, яны наведваюць могілкі, на якіх святар моліцца за душы памерлых. Найчасцей бывае так, што могілкі тыя не надта далёка ад месцаў пражывання тых, якія заклапочаныя патойбаковым лёсам сваіх блізкіх. Але калі жывыя пражываюць далёка ад месцаў пахавання?..

З дапамогай у вырашэнні такога клопату прыйшла тэхніка, а ў прыватнасці — Інтэрнет. Вось японцы прыдумалі інтэрнетную паслугу, дзякуючы якой можна ўшаноўваць памяць сваіх блізкіх і маліцца за патойбаковы лёс іх душы не крануючыся з фатэля перад экранам хатняга камп'ютэра. Хопіць увесці ў сетку пароль, каб на экране паказаўся помнік свайго блізкага, свайго ўласнага праекта, на найбольш любімым фоне. Апрача гэтага на экран можна вызваць біяграфію пакойнага, яго тастамент, хобі і другія цікавінкі. А далей можна выбраць рэлігію, а нават яе секту, і тады адпаведны святар адслужыць на экране адпаведную паніхіду. Усё вышэйназванае можа мець адпаведнікі ў рэчаіснасці, а можа быць і зусім віртуальнае (уяўнае); нават пакойнік, калі няма сапраўднага.

Гэтая форма абраднасці мае ўжо многіх наднісчыкаў, а іх лік настаянна расце. Нямалаважным стымулам гэтаму з'яўляюцца і цэны: не толькі адлеглага падарожжа, але і зямлі, і помнікаў. І калі напачатку карысталіся гэтым толькі тыя, што жылі далёка ад магіл сваіх блізкіх, дык цяпер наяўляецца штораз больш ахвотных быць пакойнікамі пахаванымі на такіх віртуальных могілках.

**(ав)**

# Беларусаў не адпускалі

**Пра нямецкую і савецкую няволю расказвае 75-гадовы жыхар Свіслачан Міхал МАЙСЕЙ.**

Немец забраў мяне на прымусовыя работы ў 1943 годзе. Там прабыў я два гады, пакуль саветы не вызвалілі. Працаваў шэсць кіламетраў ад Кёнігсберга, у жвіроўні, на беразе заліва. Грузіў жвір на баржы, самаходы. Ад нас нікога там са мною не было, толькі пасля ў Кёнігсбергу спаткаў дваіх, калі надушыў руку так, што аж да локця спухла. Пайшоў я тады да доктара, а ведаў, што яны недзе там на канавах робяць. Іду, бачу — Сцяпан ідзе! Я пачаў азірацца на яго, ён на мяне...

А са мною працавалі людзі з Плоцка, Цеханава, Варшавы. З Беларусі прывезлі толькі пасля паўгода; былі яны недзе з-пад Баранавіч.

Калі саветы акружылі немцаў, тыя не мелі куды ўцякаць, нават морам, бо Гданьск быў ужо таксама акружаны. Адной раніцы бачым, што гараць баракі, і кулямёты тарахцяць. Дык мы ў падвал. З горада ўцякала многа, бо каля нас і пякарня была, і пошта. Нямецкі танк выехаў, дык па ім рускія стукнулі і ён назад у *Кінсберг* паехаў. А ў той падвал народу *хлонула*... Ой, што там рабілася! Бо кожны хоча жыць. А той рускі *панімае* хто які? Але толькі аднаго з нашых папала куля ў руку; яго зараз рускія прыйшлі і перавязалі.

А мы былі разабралі аўтамабіль, і бензін прыхавалі ад рускіх. Бо быў з Плоцка шафёр, ён кажа нам: „Хлопакі, я вас до Бялэгостоку подвёзэ".

Выглядаем мы з падвала, а звонку нейкія не такія: не „будзёнаўкі", а шапкі на галовах маюць. Але ж бачым — бярэцца адзін з іх гранату кідаць у наш падвал. Дык мы ў крык: „Таварыш! Свае мы!" „Так выхадзіце, ё вашу мать, как сваі!" Давай мы вылазіць. Адразу ўсім *зыгаркі* пазабіралі. І загадалі: „Удзірайце паскарэе, бо здзесь бой начнёцца". Забіраю я свой чамадан, у які крыху прызапасіў вопраткі, што дастаў у горадзе, а тут пачалі бамбіць. Зайшлі мы на хутар, які быў шэсць кіламетраў ад нас, а там прайсці нельга было: столькі войска, столькі ўсяго... Там нас ноч захапіла. Але якое там спанне было: у стадоле... Было гэта чацвёртага лютага. Дабра было многа: узялі пару коней, пад'ехалі, рускія забіраюць. Пайшлі пяшком. Ішлі ўсе разам, хто там быў, і палякі, і мы. Кожны стараўся сваю галаў *спасці*. Дайшлі да аднаго маёнтка, а там быдла, свіней!.. Мы там і варылі, і далі. Прыехаў лейтэнант з двума салдатамі, усіх пастроіў. Сем'і і старых на бок, адно маладых выбраў. „Куда, таварыш лейценант?" — „Пайдзём, у пуць выстраім вас, дамой будзеце ад'язжаць". Дык мы ахвотна ідзем са сваімі чамаданамі. Загнаў нас у падвал, паставіў *часавога*. Мы праз акно ўзіраемся з падвала: ужо нікога на панадворку *нет*, а ў падвале нас недзе з пятнаццаць чалавек было. І ў тым падвале адзін рускі ляжаў, дык мы яго пытаем: „Пачаму ты здзесь?" — „А вы аткуда?" — „Адтуда і адтуда." — „Да, ё вашу мать, я атстал ад сваёй часці і іду ў штрафную. І вы пайдзёце са мной!" Бяда. Тут нас на *бадання* бяруць. Агледзелі нас, і на самаход, і ў другі падвал загналі. А ў тым падвале і разанскіх, і курскіх, якіх хочаш было. Узялі мяне зноў на *бадання*. *Бадалі* мяне дванаццаць гадзін, без перапынку! Зрабілі рэвізію ў маім куфэрку. „Так ты ў немца работал?" Я кажу: „Работал, у жвіроўні". У канцы канцоў пабралі ўсіх у Істэнбург *да вензення*. А Істэнбург быў спалены дачыста, толькі два *блёкі* стаялі; у адным з іх снарад вугал вырваў. І нас там тыя два поўныя *блёкі* было. Пасядзелі мы там пару сутак, і нас на транспарт! Выгрузілі між Куйбышавам і Чэлябінскам. Там нас прасеялі, немцаў адаслалі дахаты, а як закончылася вайна ў Японіі, прывезлі яшчэ пятнаццаць тысяч японцаў. Мяне палічылі ўласаўцам. Рабіў я там на газаправодзе, на электралініі рабіў, у фабрыцы рабіў... Пасля мяне вывезлі ў Маршанск, пасля ў Разань, а з Разані ў Каламну, на беразе Акі. І адтуль я вярнуўся дадому.

Я ў следстве, яшчэ ў Прусіі, дапусціў вялікую памылку, бо калі мяне спыталі, хто я па нацыянальнасці, я адказаў, што беларус. Каб быў назваў сябе палякам, дык мяне адпусцілі б, бо палякаў адпускалі. Я толькі ў сорак шостым пачаў старацца, бо мне прыслалі *засьвядчэне*, што я з'яўляюся польскім грамадзянінам, і мне той дакумент памог. І я з тым пасведчаннем у польскае пасольства паехаў. Там быў такі без рукі паручнік; кажа мне: „Бардзо добжэ". Далі мне ў пасольстве *запамогу*: пяцьдзесят рублёў на два тыдні і *пачку*. Атрымоўваў я гэта паўгода, і тады падняўся на ногі. Напісаў я заяву ў фабрыку, каб мяне звольнілі. А яны адказваюць: „Ты беларус, і цебя увольніць не можам". Усё, думаю! Паехаў я ў пасольства, а пасля ў міністэрства па справах рэпатрыяцыі. У міністэрства мяне, вядома, не пусцілі, толькі вызвалі ка мне старшага лейтэнанта. Пытае ён мяне: „Па какім дзелам?" Гавару: „Палякі паехалі дамой, а я нікак". — „Гдзе работаеш?" — „На заводзе". — „На каком заводзе?" — „Номер семдзесят дзевяць". — „Харашо, увольнят". — „А скора?" — „За недзельку, за две". Я чакаю *нядзельку*, дзве, тры... Няма нічога! Зноў пішу заяву ў фабрыку, каб звольнілі. „За неіменіем рабочых увольніць не можам", адказваюць. Я зноў у тое міністэрства еду. Заехаў, прыходзіць капітан. Кажу: „Таварыш капітан, так і так, я ўжо ўтарой раз здзесь". — „Харашо, увольнім". — „А скора?" — „За недзельку, две". Я чакаю, ужо тры... І зноў еду. Буду ездзіць, думаю. Выходзіць маёр. Кажу: „Таварыш маёр, трэці раз я ў вас, а нікакіх рэзультатоў нет". — „Харашо, увольнім, уезжайце дамой, увольнім". — „Скора?" — „Скора". На трэці дзень прыязджае да мяне на працу лейтэнант: „Майсей!" — „Што такое?" — „Расчот!" Я кажу: „Няўжо гэта праўда?" — „Праўда". Я таго лейценанта на *кварціру*, паўлітра мы там выпілі.

Два тыдні я ездзіў падпісваць той *расчот*; я паніцца не меў, дзе якія *ужэнды* ці што. Здаў я той *расчот* і назаўтра еханць. Ніякіх дакументаў я не маю! Я меў дакумент, *временный паспорт*, але думаю: „Пакажу ў міністэрстве — могуць не пусціць", бо там жа дакладна напісана: „беларус"! Я да лейтэнанта: „Еду на родзіну, а нікакіх документоў не імею". — „А фатакартачку імееце?" — „Імею". Выпісаў ён імя і прозвішча, прылажыў пячатку... „Слава Цебе, Госпадзі!", думаю. Прыязджаю ў пасольства, каб далі мне *запамогу* на дарогу. А там адна кажа: „Пан пшэцеж недаўно достал". — „Алеж на дрогэ тшэба мне". — „Коханютькі, ежэлі мы так бэндземы выплацаць, то мы цалом Польскэ забіемы". Я тады паехаў у міністэрства, там выдалі мне дзве карткі: адну на праязны білет, а другую у Гродна, у пункт. І такім чынам я прыехаў. У Гродне чакаў яшчэ два тыдні, пакуль сабралі нас патрэбную колькасць. Дадому вярнуўся ў сорак сёмым, чацвёртага лютага, дзевяць тыдняў пасля смерці бацькі.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Пра самаедства і вольную прэсу

Каб закрануць гэтую тэму, мне спатрэбілася нагода — велікодны панядзелак (20 красавіка г.г.), які ў гэтым годзе быў, з аднаго боку, днём радасці праваслаўных хрысціян, а з другога: адзначаўся ў сусветным маштабе як дзень вольнай прэсы. А хачу я падзяліцца з чытачамі сваёй рэфлексіяй наконт артыкула Яўгена Мірановіча „Яшчэ адзін урок самаедства" („Ніва", 12.04.1998).

Праўду кажуць у народзе: „Моліцца перад фігурай, а д'ябла мае за скурай". Так і з намі, беларусамі, справа маецца. Калі ўспомню свае дзяцінства, дык Вялікдзень побач Каляд быў самым блізкім майму сэрцу святам. Міхаль Пашкоўскі цудоўна апісаў у сваім допісе „Ідзем на выбіткі" („Ніва", 19.04.1998) велікодную традыцыю. Сёння ў маёй Кузаве абраднасці такой ужо няма, яна адышла разам са старэйшым пакаленнем. Суседзі не клічуць ужо сябе ў госці, а сваякі не заўжды сваячацца. Айцец Гаўрыіл з Супрасльскага манастыра сцвярджае, што „Вялікдзень гэта добры час, каб сустрэцца з сям'ёй, пайсці і наведаць сваіх блізкіх, знаёмых, тых, што ляжаць у шпіталі..." Мы пра гэта нейк забываем, штораз менш у нас чалавечай спагадлівасці і талерантнасці.

Я. Мірановіч у сваім артыкуле сцвярджае наступнае: „Не здзіўляюць мяне поўныя нянавісці выказванні Асенніка і цынізм Сычэўскага — гэта як бы неад'емная элемент нашага тут жыцця. Такога фармату дзеячы калісь нават дамінавалі ў нашым грамадстве. Ніякія аднак паклёпніцтвы (...) не паўплываюць на працу журналістаў «Нівы». Маем надзею, што мінуў час, калі журналісты вымушаны былі пісаць па загадзе ўсялякіх царыкаў".

Я цалкам з гэтым згодны. Дзякуючы свабодзе сумлення кожны грамадзянін можа выказваць на старонках часопісаў свае думкі і пачуцці, як, хаця б, і я. Абы толькі не паклёпнічаць і не абражаць іншых людзей.

Я. Мірановіч паказвае ў сваім артыкуле, што паклёпніцтва ў бэгэкатоўскіх дзеячаў — асноўная прыкмета дзейнасці. Я не буду даходзіць „кто прав, а кто виноват". Скажу толькі, што нам гэта не прыстоіць. Калі мы так сабе сварымся, хто іншы гэтым карыстаецца. Найлепшым доказам былі парламенцкія выбары. Не схіляюся я ні да левіцы, ні да правіцы, а і БГКТ судзіць не буду. Трэба мне аднак, як беларускаму дзеячу і былому штатнаму працаўніку Таварыства, сказаць адно: занадта мы цяпер свінстваў адны адным робім. За майго часу такога не бывала. Было, што Кірызюк паспрачаўся з Майсенем, бо мелі іншыя погляды на адну і тую ж справу. Цяпер аднак увесь свет ведае, што тварыцца ў беларусаў і на Беласточчыне, і ў сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей. Дзеля чаго ўсё гэта робіцца? Ці добра гэта ўплывае на псіхіку беларускага грамадства? Напэўна не. Сведчаць аб гэтым многія публікацыі на старонках „Нівы".

Прафесар Баршчэўскі абвінавачціў спадара Сычэўскага, а К. Масальскі — Баршчэўскага. Старшыня БГКТ хоча выжыцца на журналістах „Нівы", а бядняга М. Лук'янюк ставіцца арбітрам і заклікае да круглага стала. Міколка, з гэтай мукі хлеб не атрымаецца, бо нашы беларусы-важакі надта амбітнымі сталі, адзін перад адным разумнейшым быць хоча.

Паспрабаваў я закрануць тэму „круглага стала" ў размове з паслом С. Плевам на адной з сустрэч. На пытанне, ці былі спробы дамовіцца пасля выбараў, пасол Плева адказаў, што не было дзеля гэтага часу. Мяне, як выбаршчыка, гэта забалела. Я ж аддаў голас „на сваіх", як у нас кажуць. А „свае" вось як да справы ставяцца. Спадзяюся, што гэта добры ўрок — чалавек два разы памыляецца. На гэтым канец!

Падвёўшы сказанае тут, хочацца і мне, за калегам М. Лук'янюком, заклікнуць беларускіх дзеячаў і палітыкаў да сапраўднай працы, бо як затраціцца ў грамадстве пашана да іх, позна будзе сядаць і да круглага, і да квадратнага стала.

**Уладзімір Сідарук**

# Шукаем спонсараў

Новая ілюстраваная манаграфія Міхася Раманюка „Беларускія народныя крыжы" была падрыхтавана аўтарам яшчэ пры жыцці. За 25 гадоў вандровак па ўсіх рэгіёнах Беларусі М. Раманюк сабраў мноства звестак пра непаўторныя асаблівасці беларускага пахавальна-памінальнага абраду, зрабіў шмат унікальных фотаздымкаў надмагільных і абракальных беларускіх крыжоў. Новая манаграфія прысвечана сыстэматызацыі й клясыфікацыі сабранага матэрыялу. Альбом зьмяшчае больш за 150 аўтарскіх здымкаў і замалёвак. Аб'ём 100 старонак, фармат 24 x 30 см.

Мы зьвяртаемся да ўсіх, хто зацікаўлены ў пашырэньні традыцыйнае беларускае культуры, з просьбай паспрыяць выданьню кнігі. Бяз Вашае дапамогі выданьне будзе немагчымым.

**З павагай**
**Рэдактар кнігі**
**Сяргей Дубавец**
**Мастацкі рэдактар кнігі**
**Дзяніс Раманюк**

Адрас для імянных чэкаў і пошты:
Ramaniuk Dzianis, a/d 2566, Vilnius, 2009, Lithuania.

Банкаўскі рахунак:
Beneficiary: Ramaniuk Dzianis
Beneficiary`s account: 272070129 USD
Beneficiary`s Bank: Bank „SNORAS", Vilnius, Lithuania
Acc. No. in intermediary bank: 890-0097-175
Intermediary bank THE BANK OF NEW YORK
48 Wall Street, New York
N.Y., 10286, USA
SWIFT: IRVTUS3N

# Парнасік

## Думаў

Думаў перастаць
Я ў „Ніву" пісаць,
Але цяжка будзе
Мне ўсё стрываць.
З „Нівай" я звязаўся
— Ужо трыццацігоддзе.
Я хачу, каб добра
Ў нас жылі ўсе ў згодзе.
Каб бяды не зналі,
Усе шчасця дачакалі
Ды каб нашу „Ніву"
Ўсе людзі чыталі.
Трэба нашу „Ніву"
Ўсім нам шанаваць,
Каб яна знайшлася
У нашай кожнай хаце.
Каб з нашаю „Нівай"
Добра было жыць,
Трэба нашу „Ніву"
Нашым усім любіць!

**Мікалай Лук'янюк**

## Адам Міцкевіч

Адам Міцкевіч — вялікі паэт,
І мінулі ўжо двесце зім ды лет,
Калі ён нарадзіўся на Беларусі,
Каля Навагрудка ў Завоссі.
У палякаў ён паэт, герой і *вешчы*
І пісаў прыгожыя вершы.
І не толькі —
Лёс яго быў стыхійны і горкі.
„Пан Тадэвуш" — яго цудоўная паэма —
Гэта рамантычная невычэрпная тэма.
Яна кранае нашай любімай краіны:
Лясы, лугі, палі, узгоркі, даліны...
Кранае і ўзбагачае беларускі народ,
Яе шляхецкі і просты род.
У гэтай паэме мы сябе знойдзем

І, веручы ёй ад сэрца, наперад пойдзем.
Дойдзем да яго „Дзядоў",
А там наша спадчына, вера, гісторыя, фальклор;
Там нашы абрады,
Супольнасць і згуртаванасць, парады,
Люстрацыя нашай душы —
Такою жамчужынай, чалавеча, даражы!.
Для мяне Міцкевіч — беларус, паляк, па матцы яўрэй,
І таму да яго падыходжу з паклонам і даражэй.
Напэўна ён плаўна і прыгожа гутарыў па-беларуску,
Хаця навокал жандары *чырыкалі* па-руску.
Магчыма, яго першыя вершы былі на роднай мове,
На нашай простай, цудоўнай размове.
На жаль, яны не захаваліся
І ў нетрах бездні навечна схаваліся.
Ён беларус і то пэўны,
Бо ў яго творах чуваць дух наш блізкі і верны,
І ніхто не ў сілах гэта абвергнуць і адкінуць,
А сваю „правату" накінуць.
Бацька яго Мікалай — беларускае імя —
Гэты факт-ісціну прымем з радасцю і мірна.
Міцкевіч па-польску пісаў свае творы,
Дзе Рым і Крым — вялікія прасторы.
Нялёгкі лёс і жыццё кідалі яго як човен па хвалі
І салёнаю вадой палубу залівалі.
У „Крымскіх санетах" паказаў прыгажосць Крыма,
Хаця адтуль далёка да Рыма.
Але яго душа плыла туды, дзе першыя хрысціяне,
Вучні Хрыста: Пётр і Павел — *ізраільцяне*
Вялі сваю місію, навуку
І па загаду Нерана гінулі ў муках.
Ён любіў выбраны Богам народ —
А гэта ізраільскі род.
У жылах яго продкаў плыла і гэтая кроў,
А, ведаем, агонь не будзе гарэць, калі няма дроў.
Родзіцца важнае пытанне: Хто лепшы
І ў сусветнай паэзіі першы?
Міцкевіч, Пушкін, Купала, Колас, Шаўчэнка — як адкажам?
І можам сказаць гучна і разам:
Усе яны геніі і роўныя —
І мне вельмі блізкія і родныя!

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР – НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! Сёння мне цэлую ноч сніліся кашмары. Быццам бы пасадзілі мяне ў турму. Мне там было вельмі кепска і я ўцёк. І так усю ноч: турма, уцёкі, страх. Што гэты сон абазначае? Пэўна, нешта вельмі кепскае...

**Іван**

Астроне, хіба ўжо мне нядоўга быць на гэтым свеце, бо бач, які сон праснуўся.

Прыйшла да мяне на кватэру (я жыву адна) мая мама-нябожчыца і кажа мне: „Хопіць табе тут адной мучыцца! Збірайся, паедзем!" Я паслухмяна пачала складваць свае рэчы. Пад'ехала фурманка. Мы мелі на ёй схаць. А заказаў гэту фурманку мой сусед. Я ўзяла падрыхтаваныя клункі і выйшла з хаты. Сыходжу па сходах уніз да тае фурманкі і... прачнулася. Не заснула я ўжо да раніцы, усялякія думкі лезлі мне ў галаву. Нялёгка мне жыць адной, ды і здароўе слабое, але павер, пасля гэтага сну страшна мне стала.

**Кацярына**

А вось жа Іванка, і някепскі твой сон. Турма прадвяшчае табе багацце, спакой і дабрабыт. Не ўсё тое, што ў сне выклікае страх і непакой, варожыць чалавеку кепскае ў жыцці. Часамі — зусім супрацьлеглае!

А ты, Кацярына, кінь ужо думаць пра смерць. Яна прыйдзе тады, калі надыдзе твой час, але лепш забудзься пра гэта і жыві нармальным жыццём. Твае чорныя думкі могуць давесці цябе да хваробы.

Маці і тая фурманка гавораць за нейкую прыкрую і няпэўную справу, якая чакае цябе. Можа, крыху прыхварэеш. Сачы за сваім здароўем!

**Астрон**

# Нежывому не баліць

**Думкі дзеда Антона**

Яксьці я паздаравеў і ўжо хварэць у найбліжэйшы час не збіраюся. Я думаў пра свае хваробы, пакуль хворых не пабачыў. Паехаў да свае дваюраднай сястры Мані. А там у яе і сын, і нявестка, і малая ўнучка Дыяна, а можа Даяна (назавуць чорт ведае як), усе хворыя. Сярод іх толькі Маня ўвіхаецца. То гарбату, то паесці, то вітаміны ім прыносіць. Паклаў так іх грып покатам.

Вярнуўся я да свае хаты, не было там чаго мне сядзець. А ў сваёй хаце і на сваім панадворку сам сабе панам, а ездзіць да сваякоў ахвота мне адышла. Выйшаў пасля абеду, сеў на лаўцы, надвор'ем любуюся. Вясна ўжо прыйшла. Сонейка прыпякае і мае старыя косці грэе. Усе кудысьці спяшаюцца, а мне няма да каго нават рот адчыніць. Ніхто часу не мае. Учора то хаця са Сцяпанам пагаварыў. Ён таксама ў хаце адзін астаўся. Жонка памерла, а дзеці ў горадзе жывуць. Хацеў я пра свае хваробы са Сцяпанам пагутарыць. Селі, пра сёе-тое сабе расказваем. Я пачаў скардзіцца на галаву і жывот. Сцяпан маўчаў-маўчаў, а потым кажа: „А цяпер ты мяне паслухай. Быў аднойчы стары чалавек. Наракаў ён заўсёды на розныя хваробы. То нага, то галава, то яшчэ нешта ў баку яму баліць. Прачынаецца аднойчы з самой раніцы, а тут... нічагусенькі не баліць! Перапалохаўся ён не на жарты, падумаў, што калі нічога не баліць, то ён ужо нежывы".

Так мне Сцяпан адказаў, і наракаць мне адхацелася. Не вельмі мне гэта спадабалася. Я хутка ў хату падаўся, а са Сцяпанам — нават не развітаўся.

Сёння таксама сяджу на лаўцы, грэюся. Сцяпан са свайго панадворка „касавурыцца", хоча каб я яго паклікаў. А я — нічагусенькі. Падаю від, што яго не бачу. Анекдотаў яму захацелася! Тырчы цяпер, разява, туды тваю раз. Мне там нічога. Аднак потым перадумаў я ўсё і дайшоў да вываду, што Сцяпан мне праўду сказаў. На самай справе ў мае гады то я яшчэ і так добра выглядаю і не найгорш сябе адчуваю. А што пра чужыя хваробы не вельмі прыемна слухаць, то і сам ведаю. Прыйдзецца са Сцяпанам піва выпіць, не такі ён дрэнны, як мне здалося. Той анекдот ён мне па-сяброўску расказаў. Трэба ў краму схадзіць за півам. Сядзем разам на лавачцы і пагутарым яшчэ. Няма чаго злавацца, шкада жыцця на гэта.

**Выслухала і запісала Іаланта Грыгарук**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 3. шырокая гарызантальная дошка на высокіх ножках, 8. мода на мінулае, 9. малітоўнае ўслаўленне, 10. удушлівы туман змешаны з дымам, 11. горад у Эстоніі, 13. турма, 15. чарнавокая дзяўчына, 16. горы на поўначы Афрыкі, 20. Герхарт, нямецкі драматург (1862—1946), Нобелеўская прэмія за 1912 г., 22. Хуліо, аргенцінскі пісьменнік (1914—1984), 23. цэнтр правінцыі Сычуань, 27. опера Рыхарда Вагнера, 29. аб'яднанне, 30. шайка, 31. смерць, 32. металічныя шчыпцы, 33. лепшыя прадстаўнікі грамадства, 34. горад на поўначы Францыі.

**Вертыкальна:** 1. высадка войск на тэрыторыю праціўніка, 2. частая ў евангеллях, 4. Сі-ньіціра, японскі фізік (1906—1979), Нобелеўская прэмія за 1965 г., 5. цэнтр шумерскай цывілізацыі ў 3-м тысячагоддзі да н.э., 6. горнапрамысловае прадпрыемства, 7. аповесць Максіма Гарэцкага, 12. гара ў Перу, 6768 м., 14. скупляе для перапродажу, 16. дугападобнае перакрыццё, 17. дваранскі тытул у Англіі, 18. канец малітвы, 19. група высп у Навасібірскіх астравах, 21. аўтэнтык, 24. вярхоўны шумерскі бог, 25. група індзейскіх плямён у верхнім цячэнні Місуры, 26. Фернанда, іспанскі палкаводзец, правіцель Нідэрландаў і заваёўнік Партугаліі (1507—82), 27. лясны дух, 28. старажытнагрэчаскі драматург (525—456 да н.э.).

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку 12 з нумара**

**Гарызантальна:** Карскі, Сімідзу, лапата, Рэспігі, Канада, баркас, Утагава, таўкач, Куклева, фіяска.

**Вертыкальна:** ястраб, эмісар, адліга, Кулік, Рэпін, катод, аладка, апагей, апарат, Амаці, какос, сучка.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму і Міхалу Байко** з Беластока.

# Смецце на абочынах...

Калі хто едзе з Гайнаўкі ў Беласток, дык на абочынах асфальтаванай шашы пабачыць смецце, бутэлькі і іншыя непрыгодныя для далейшага карыстання прадметы, напрыклад старыя аўтамабільныя шыны ды ўсялякі друз. Найбольш усялякай непатрэбшчыны знаходзіцца там, дзе да дарогі падступаюць лясы ды пералескі. Тут знойдзеце акуратна запакаванае смецце ў фольгавых пакетах. Відаць, выкідаюць іх проста з самаходаў. Найбольш засмечаны аўтобусныя прыпынкі ПКС сустрэнем побач Крыўца, Макаўкі, Іванкаў-Рагазоў, Загрушанаў, Пратасаў і Кур'ян. Калі і хто там прыбярэ?

**(гай)**

**Ніва**

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міраповіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł. a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка




*Мал. Ані БАЧЫНСКАЙ і Монікі ЯКІМЮК*

**Фрашкі пра нашых**

## На родных хвалях

Блісне зорка з таго боку,
Спавальнеюць твае крокі.
Ды работы поўны рукі,
Бо ўсё хочаш аддаць унукам
(І няважна, ці ўласным),
Перадаць свой човен шчасны.

## Тэрарыст

Галоўны тэрарыст
страляе з кулямёта,
Зараджанага
атрамантам
чырвоным.
Мішэнь — партрэты
развешаны
на плоце —
З усіх выбараў
адметны фізіяноміі.

**Вандал Арлянскі**

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

— Янка! Ужо дзесяць разоў цябе клічу, а ты не прыходзіш... Хто з цябе вырасце?!

— Афіцыянт.

* * *

У школе:

— Ці бусел з'яўляецца карыснаю птушкай?

— Не, бо стварае перанасяленне.

* * *

Маладая актывістка Арміі збаўлення агітуе:

— Бярыце з мяне прыклад! Учора баролася я з чортам, а ўжо сёння абнімае мяне анёл сваімі апякунчымі крыламі.

— А ці заўтра будзеце ў вас вольны дзень? — раздаецца голас з залы.

* * *

На будове майстар звяртаецца да работнікаў:

— Працуйце старанна, бо гэты будынак вы ставіце сабе.

— А што ў ім будзе?

— Выцвярэзнік.

* * *

Малады бацька пхае каляску з крыклівым дзіцём і ў адчаі паціху мармыча:

— Успакойся, Андрэйка, успакойся...

— Ваша цярплівасць захапляе мяне, — адзываецца да яго бабулька, якая праходзіла побач, — бо гэты Андрэйка сапраўды вельмі крыклівы.

— Памыляецеся, — адказвае малады бацька, — Майго сыночка завем Сашам, а Андрэй — гэта я.

* * *

У Расеі размаўляюць манархіст, камуніст і беспартыйны:

— Я, калі памру, — кажа манархіст, — хацеў бы ляжаць побач цара Аляксандра III.

— А я хацеў бы ляжаць побач Леніна, — заяўляе камуніст.

— А я побач грамадзянкі Цыпяровіч, — кажа беспартыйны.

— Яна ж яшчэ жыве! — здзіўляюцца яго калегі.

— А я што — памёр?!

* * *

— Чаго не стане, калі сацыялістычнае будаўнічае прадпрыемства пачне ставіць дамы на Сахары?

— ?

— Пяску!

# Як паводзіць сябе ў выцвярэзніку

**Парады супраць асіміляцыі (3)**

Вам напэўна здаецца так: куды як куды, а вось у выцвярэзнік ваша нага не ступіць ніколі! Бо і якое дачыненне можа мець такое агіднае месца да асобы талковага бацькі, сумленнага грамадзяніна і паважанага чалавека?

А вось бываюць дні, калі ўсе планеты стаюць у адну, простую лінію, папулярныя імяніны спалучаюцца з нейкім, таксама ж папулярным, рэлігійным святам, а сам чорт зарплатай падмацоўвае і так ужо незвычайную канфігурацыю. І калі ў парку, апоўначы, у ваш нявінны справядлівы адпачынак уварвуцца чатыры асобені ў чорна-сініх уніформах, не махайце кулакамі і не тлумачце, што вы — начальнік гарадскога аддзела па справах культуры, а дома чакаюць вас чысценькія дзеткі і цёплая, пахучая сном жонка. Не ляпайце таксама языком, што вашы магчымасці куды больш шырэйшыя за кампетэнцыі бурмістра, гэтага — крый Божа — мястэчка.

Прарок Іезекііль таксама ж культурна прагуляўся на рацэ Кебар, калі невядома адкуль з'явіліся чатыры, падобныя на чалавека постаці, падхапілі яго і хаця запіраўся рукамі ды нагамі — панеслі паказаць незнаёмае. Сёння падыпіла вось і ваша чарга. НЛА-талеркай з белым паскам пасярэдзіне паедзеце ў свет, у якім — хаця вы і начальнік — ніколі яшчэ не былі. На парозе стрэне вас постаць у белым халаце, загляне вам у вочы і ў зубы, праверыць мускулы, загадае прагуляцца ўздоўж белай лініі, якая беспамылкова адсявае віну ад нявіннасці. Іншыя постаці будуць за той час вызваляць вас з цяжкай вопраткі, пералічваць сумныя астаткі вашай зарплаты, выпішуць адпаведную квітанцыю, а потым, карыстаючыся доўгім шлангам, які наперамену выплёўвае раз халодную, а раз цёплую вадзіцу, абмыюць пыл і стому з вашай грэшнай абалонкі. З анёльскай цярплівасцю апрануць вас у доўгую, прасторную кашулю і павядуць на спачынак. І калі нейкі анёл хукне вам у нос знаёмым араматам гарэлкі „Абсальвент”, не дакопвайцеся, чаму харчовыя звычаі анёлаў як бы нагадваюць прывычкі зямных грэшнікаў. У келлі пакладуць вас на цвёрдыя нары, зусім выпадкова забудуць даць вам плед і падушку, а вы, як мала вопытны пачатковец, не здагадаецеся таксама, каб напомніць пра яе. Можаце пацешыць сябе, што прароку Іону таксама задніцу пярынамі не высцілалі, калі тоўкся чалавек у асцістых нетрах агромнага кіта. Цярпенне ўдасканальвае чалавека, можна сказаць — папраўляе боскую халтуру. Прыміце тады свой лёс з пакорай. На таварышаў нядолі не глядзіце з пагардай. Няхай сабе і зямныя чарвякі яны, і ў супрацьлегласці да вас не разбіраюцца як аформіць народны фэст, ці нейкае іншае, карыснае мерапрыемства, тутака аднак вы звычайны грамадзянін, адпаведнымі службамі выратаваны ад знішчэння.

Падспеўваць „Пасеяла агурочкі” — таксама не рэкамендуецца. Сяржант Шарэйка пільна вартуе за дзвярыма, каб заўчасна загасіць вакальныя схільнасці сваіх выхаванкаў.

Выцвярэзнік — гэта не народны фэст, хаця праўда — і там, і тут пераважоўваецца ўчарашняя дасканаласць і колішняя святочная весялосць. Раніцай, як абсалютны пачатковец, урачыста атрымаеце сцірку і шчотку, каб прыбраць усе сляды сваёй тут пабыўкі, а адпаведны чалавек праверыць, як жа справіліся вы з малавядомай сабе задачай. А потым астаецца толькі заплаціць за гасціну і шыбаваць дамоў. Надта, аднак, не спяшайце. У дарозе трэба яшчэ прыдумаць, як лагічна растлумачыць жонцы сваю непрадбачаную адсутнасць у месцы пастаяннага кватарунку.

**Міхась Андрасюк**

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Скажу табе адкрыта: калі ўбачыш, што хлопец здраджвае, дык няма чаго бегаць за ім, стагнаць, енчыць. Тут дзяўчо павінна быць стойкае: адвярнуцца і ў яго бок не глянуць нават. Лепш пашукаць сабе іншага. Хіба, што не дасць яна рады зусім парваць з ім.

Ну, падумай ты, пяць жа гадоў з ім я праходзіла. Думала, што ніхто нас не разлучыць. А тут — на табе! — закахаўся. Праўда, каханне гэтае трывала ўсяго пару тадняў, бо хутка вярнуўся да мяне, але пасля прыйшло наступнае. А тады ўжо — як па масле. Не парываў са мною, але і да іншых ласіўся.

Во свінчо, думаю. Я ж дзеля цябе ўсіх хлопцаў кінула. Ці ты не разумееш, што ў маёй душы тварыцца?

Дагадзіць яму ва ўсім старалася, а ён — як пайшоў, дык быццам з ланцуга сарваўся. І ўжо не стрымаць яго. А такі харошы — не апісаць. У пасцелі — як добры жарабец. Прыклеілася я да яго, дурніца, з галавы выкінуць не магу.

А як нам было добра, калі яшчэ ён за іншымі не разглядаўся... Ляжам у пасцель, а сну няма. Часам дык і чатыры гадзіны падрад кахаліся. А пасля — ізноў. А цяпер... — ляжам, але вось чую, што нехта ў яго ёсць. Ведаеш, баба гэта заўсёды адчуе. Хаця і застанецца ў мяне нанач, то ўжо няма аж такога заангажавання, як калісьці. Робіць гэта значна хутчэй, чым калісьці, ды і пацалункі яго не такія гарачыя. Быццам бы былі ўтраіх, а не ўдваіх.

А пазней дык стаў перада мной хваліцца сваімі поспехамі. Дальбог, гаварыў адкрыта, не саромеўся, так як было. Высветлілася, што часамі кахаецца не толькі ўтраіх, а нават і ў большай кампаніі. Божачкі! Расказваў пра нейкія „камбінацыі”, якія мне нават не сніліся.

У такія моманты я адчувала да яго агіду, але хутка забывалася пра гэта: маё каханне было мацнейшае, і я даравала яму ўсё.

Але колькі ж можна было цярпець, пераносіць такія паніжэнні... Найгорш, што ўсе мае сяброўкі і сябры ведалі пра тое, што мой хлопец цягаецца з іншымі. Адзін знаёмы хлопец, які прабаваў хадзіць каля мяне, падсумаваў яго як чалавека „з пэўнымі адхіленнямі”.

Мо такі ён і ёсць, але мяне гэта ўзбуджае яшчэ больш. А можа той хлопец, што мне гэта гаварыў, проста зайздросціў яму. Сэрцайка, падабаўся ён мне і падабаецца яшчэ і цяпер. Але, вырашыла я, што „клін клінам”. Няма, гаварылі мне людзі, на гэта іншай рады.

І ведаеш, Сэрцайка, дапамагло. Высветлілася, што іншыя таксама могуць даць чалавеку задавальненне ды ахвоту жыць. Але з ім ніяк не магу скончыць. Засеў у маім сэрцы і сядзіць, быццам нейкая стрэмка, хоць ты што ні рабі. Нібы іншых маю, але і з ім. Быццам бы „дзякую” яму за ўсё, што робіць мне.

Ты ведаеш што, я нават думаю, што занадта позна я адумалася. Мо каб пачала гэта рабіць раней, было б мне значна лягчэй. Скажы, Сэрцайка, ці гэта магчыма, што з многімі сустракаюся, а аднаго кахаю?

**Бася**

Даражэнькая Бася! Бадай жа магчыма, калі ты апынулася ў такой сітуацыі і адчуваеш сябе добра. Можа сапраўды і ёсць гэта нейкае лякарства на жыццёвыя няўдачы. Аднак жа далейшае жыццё ў такім стылі не прывядзе да ніякіх пазітыўных вынікаў. Зразумей, ты гэта робіш, каб пратрываць пры каханым, бо інакш магла б звар'яцець. А якія ў цябе шансы на будучыню? Ці ты намерваешся так цягнуць усё жыццё? Тут, даражэнькая, і ў дзеўках можна застацца. Я разумею, каханне...

А ён сабе брыкае, як хоча. Захоча — брыкне да цябе, захоча — да іншай, новай. Што яму?! Ён лічыць, што жанчыца яшчэ паспее. А пакуль што, варта пагуляць. Мо яму нават цябе замала. Такому жарабцу адно падавай. Дык жа так можа быць і ўсё жыццё! І што, хацела б ты з такім мучыцца?

Ну, міленькая, пабрыкай і ты яшчэ крышачку, ды пастарайся з гэтым скончыць. З усім гэтым — каханнем, з іншымі. Прыпыніся, прашу цябе, хоць на крышачку. Мо тады неспадзявана знойдзецца вартасны чалавек, з якім ты зможаш назаўсёды звязаць сваё жыццё.

**Сэрцайка**